АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВЫ, ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

*М. Р. СУДНІК і М. П. ЛОБАН*

# АРФАГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

*Пад рэдакцыяй
члена-карэспандэнта
Акадэміі навук БССР
К. К. КРАПІВЫ*

ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР
МІНСК 1948

# ПРАДМОВА

Арфаграфічны слоўнік, як паказвае сама назва, прызначаецца для адной мэты — дапамагаць у правільным, аднастайным напісанні найбольш цяжкіх у арфаграфічных адносінах слоў той ці іншай літаратурнай мовы.

У дадзеным выпадку аўтары, працуючы над укладаннем арфаграфічнага слоўніка беларускай мовы, па меры сіл і мажлівасці імкнуліся да таго, каб дапамагчы моўнай практыцы ў знішчэнні існуючага арфаграфічнага разнабою. Аднак мы далёкі ад той думкі, што дадзены слоўнік пазбаўлен недахопаў. Стварыць ва ўсіх адносінах бездакорны слоўнік адразу вельмі цяжка, тым больш, што падобны тып слоўніка ў беларускай лексікаграфіі ствараецца ўпершыню, ды і правілы існуючага правапісу далёка не дасканалы, а часам нават супярэчлівы. У сувязі з гэтым мы не мелі магчымасці ўсе без выключэння словы строга падпарадкаваць існуючым правілам і вымушаны былі ў асобных выпадках рабіць адхіленні, апіраючыся на мову нашых буйнейшых майстроў слова.

У словах з некалькімі формамі напісання аддавалася перавага той форме, якая найбольш пашырана ў літаратуры або ў народнай мове цэнтральнай часткі Беларусі. На гэтай падставе ў слоўніку пададзены: *напільнік, бяскра́йні, пяро́йдзеш*, а не: *напілак, бяскра́йны, пярэ́йдзеш*. Калі-ж з некалькіх аднолькава пашыраных форм нельга было вызначыць галоўную, тады мы лічылі патрэбным такія словы даваць з дваякім і траякім напісаннем, на-

прыклад: *адамкну́ты* і *адамкнёны, залвіца* і *зало́ўка, вако́л, навако́л, наво́кал, наўко́л.*

У найбольш цяжкіх выпадках напісання або формаўтварэння таго ці іншага слова ў тэксце слоўніка пры адпаведным слове даюцца ілюстрацыйныя прыклады, лексічныя паметы, дзеяслоўныя формы, склонавыя канчаткі. Пры гэтым асаблівая ўвага звяртаецца на канчаткі роднага склону адзіночнага ліку тых назоўнікаў мужчынскага роду, якія па сваёй семантычнай прыродзе здольны выступаць з двума канчаткамі: з *а* і з *у*, напрыклад: *кісларо́д-а, кальцы́т-а* (навуковыя тэрміны), але: *балон кісларо́д-у, здабы́ча кальцы́т-у* (рэчыўныя паняцці). Падобнага тыпу назоўнікі даюцца ў слоўніку з адным канчаткам толькі ў тым выпадку, калі гэтыя назоўнікі ўвайшлі ў шырокае народнае ўжыванне і ўспрымаюцца ў першую чаргу як паняцці рэчыўныя (*ёд-у, цэме́нт-у* і г. д.).

У аснову слоўніка пакладзен правапіс беларускай мовы, прыняты ў 1933 годзе, і толькі ў выключных выпадках, калі правіла не ахоплівае значнай колькасці слоў, якія ў сувязі з гэтым у практыцы знаходзяць разнастайнае напісанне, мы канкрэтызуем такое правіла шляхам дадавання заўваг да яго. Так канкрэтызавана правіла аб пераходзе зычных *д* і *т* у *дз* і *ц* у словах іншамоўнага паходжання перад суфіксамі, якія пачынаюцца з галосных *і, е.* У заўвазе да гэтага правіла падкрэслена, што пераход *д* і *т* адбываецца не перад усімі суфіксамі на *і, е,* а толькі перад суфіксамі *ін, ір, ёр, ец, еец* і часам перад *ік* (*гардзі́на, камандзіро́ўка, манцёр, гала́ндзец, гвардзе́ец, эпізо́дзік),* у астатніх-жа выпадках *д* і *т* захоўваюцца цвёрдымі (*крытэ́рый, касмапалі́тызм, фане́тыка* і інш.).

Канкрэтызавана і правіла правапісу складаных слоў. Паслядоўна прымяняючы гэтае правіла, трэба было-б пісаць: *геалогія, арфаграфія, зоологія, малатабоец, косавокасць,* таму што другая частка гэтых

слоў (*-логія, -графія, -боец, -вокасць*) не з'яўляецца скарочанай. Як бачыце, практыка з крытэрыем нескарочанасці другой часткі складанага слова не лічылася, паколькі такога напісання не існуе.

Пры разглядзе напісання складаных слоў аўтары кіраваліся не двума крытэрыямі, як гэта раіць правіла, а адным — крытэрыем самастойнага ўжывання або неўжывання другой часткі складанага слова. На гэтай падставе і даецца напісанне: *геалóгія, касавóкасць, малатабóец, заканадáўчы* і да іх падобныя.

Аўтары імкнуліся не абыходзіць спрэчныя моманты правапісу і пры вырашэнні іх не пакладаліся толькі на сваё ўласнае меркаванне, а выносілі на абгаварэнне сектара мовы Інстытута і толькі пасля адпаведнага вырашэння там уключалі тое ці іншае слова ў слоўнік.

Слоўнік складаецца з трох частак. У першай частцы прыводзяцца галоўнейшыя правілы правапісу. Пры гэтым асабліва шырока прадстаўлена ўжыванне вялікай літары. Зроблена гэта свядома, паколькі ў беларускім правапісе яшчэ не было грунтоўна распрацаваных правіл аб вялікай літары.

Другая частка слоўніка — гэта сама лексіка, размешчаная ў алфавітным парадку. Лексічны запас слоўніка — каля 12 000 слоў.

Нарэшце, трэцюю частку слоўніка складаюць галоўнейшыя геаграфічныя назвы свету, сярод якіх найбольш поўна прадстаўлены геаграфічныя назвы Беларусі (да раённых цэнтраў уключна).

Спецыяльнае ўнясенне геаграфічнай наменклатурнай лексікі ў слоўнік выклікана неабходнасцю ўстанаўлення адзінага напісання дадзенай катэгорыі слоў (бо часта пішуць: *грóдзенскі* і *грóдненскі, маладзéчанскі* і *маладзéчненскі, вéтрынскі* і *вéтранскі, Магілéў* і *Магілёў* і г. д.).

У заключэнне нельга не адзначыць, што безза-

ганны, ва ўсіх адносінах дасканалы слоўнік магчыма стварыць толькі пры шырокім удзеле грамадскасці і ў першую чаргу працаўнікоў мовазнаўча-літаратурнага фронту. Разумеючы і падкрэсліваючы гэта, мы спадзяемся, што заўвагі і прапановы чытачоў будуць садзейнічаць стварэнню такога слоўніка.

У працы над дадзеным слоўнікам каштоўным парадамі дапамаглі нам член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР прафесар С. Г. Бархудараў і кіраўнікі слоўнікавага сектара Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР П. Ф. Глебка: першы—па структурных пытаннях слоўніка і па правапісу вялікай літары, а другі — па вызначэнні націску ў найбольш цяжкіх і спрэчных момантах, — за што і выказваем ім шчырую падзяку.

*Аўтары*

# ГАЛОЎНЕЙШЫЯ ПРАВІЛЫ ПРАВАПІСУ

## Ужыванне вялікай літары

**§ 1.** З вялікай літары пішацца першае слова тэксту, першае слова пасля кропкі, шматкроп'я, пытальніка і клічніка, якімі заканчваецца сказ.

З а ў в а г а 1. Пасля шматкроп'я, якое стаіць у сярэдзіне сказа і азначае перапынак у гаворцы, першае слова пішацца з малой літары: *«Я... мы так рады, што ты... вы прышлі, так рады...»* (Я. Купала.)

З а ў в а г а 2. Калі пытальнік, клічнік, шматкроп'е стаяць пасля простай мовы, а наступны выраз паказвае, каму належыць гэтая простая мова, тады пасля пералічаных знакаў прыпынку першае слова пішацца з малой літары: *«Ты-ж гэта мне што даеш?» — у абурэнні запытаў дзед Талаш, палажыўшы на далонь папяровую марку.* (Я. Колас.)

*«Надзя! Надзейка!..»—кліча жалейка...* (П. Броўка.)

*«Але-ж тут было-б зусім нядрэнна, каб...» — прамовіў, нарэшце, Віктар.* (Я. Маўр.)

З а ў в а г а 3. Слова, якое стаіць пасля клічніка, што ідзе за выклічнікам у сярэдзіне сказа, пішацца з малой літары: *«І ляцім-жа, браткі, э-эх! ляцім!.. Даганяй — не дагоніш...»* (М. Лынькоў.)

З а ў в а г а 4. Калі сказ пачынаецца з выклічніка або звароткa, пасля якіх стаіць клічнік, тады наступнае слова пішацца з вялікай літары:

*«А-я-яй! Хто-ж бы гэта мог падумаць! Гэтакі, здаецца, чалавек!»* (К. Крапіва.)

*«Сястра! Калі я не дакончу пісьмо, ты дапішаш... і сям'і і сябрам з Беларусі прывет перашлеш».* (М. Танк.)

§ 2. З вялікай літары пішацца першае слова пасля двукроп'я ў наступных выпадках:

*а*) Калі гэта пачатак простай мовы: *Услед ёй крычу я: «Расці, магілёўская хмарка, з зямлёй трымаючы сувязь жывую!»* (А. Куляшоў.)

*б)* Калі гэта пачатак цытаты, якая з'яўляецца самастойным сказам: *Яшчэ ў 1905 годзе аб стварэнні літаратуры, звязанай з пролетарыятам, В. І. Ленін пісаў: «Гэта будзе свабодная літаратура, таму што не карыслівасць і не кар'ера, а ідэя социялізма і спачуванне працоўным будуць вербаваць новыя і новыя сілы ў яе шэрагі».*

Заўвага. Калі-ж цытата ўваходзіць у сказ як працяг яго, тады яна пачынаецца з маленькай літары: *На XVI з'ездзе ВКП(б) т. Сталін гаварыў, што «ў перыяд перамогі социялізма ў сусветным маштабе, калі социялізм узмацнее і ўвойдзе ў быт, нацыянальныя мовы немінуча. павінны зліцца ў адну агульную мову, якая, зразумела, не будзе ні вялікарускай, ні нямецкай, а чымсьці новым».*

*в)* Калі гэта асобныя, нумараваныя або не нумараваныя рубрыкі тэксту з кропкай на канцы: *«У імя вызвалення нашай Ра-*

*дзімы ад ненавіснага ворага, у імя канчатковай перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі, — загадваю:*

1. *Безупынна ўдасканальваць баявую вывучку і ўмацоўваць дысцыпліну, парадак і арганізаванасць ва ўсёй Чырвонай Арміі і ў Ваенна-Марскім Флоце.*

2. ***Узмацніць удары па варожых войсках, безупынна і ўпорна праследаваць ворага, не даваць яму замацоўвацца на абарончых рубяжах, не даваць яму адпачынку ні ўдзень, ні ўночы, рэзаць камунікацыі ворага, абкружаць варожыя войскі і знішчаць іх, калі яны адмаўляюцца скласці зброю...»*** (І. В. Сталін.)

Заўвага. Калі-ж такія рубрыкі заканчваюцца кропкай з коскай, тады яны пачынаюцца з малой літары: *«XVII з'езд ВКП(б) указвае, што выкананне другога пяцігадовага плана, плана агульнай тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, патрабуе такой арганізацыі справы, пры якой былі-б забяспечаны:*

*па-першае, аператыўнасць і кантактнасць штодзённага гаспадарчага кіраўніцтва, якое не мірыцца з бюракратычнымі скажэннямі ў гаспадарчым апараце;*

*па-другое, сканцэнтраванне лепшых інжынерна-тэхнічных сіл на рашаючых вытворчых участках, а не ў канцылярыях устаноў;*

*па-трэцяе, правільная арганізацыя заработнай платы рабочых, якая забяспечвае матэрыяльнае заахвочванне росту прадукцыйнасці працы...»* (В. М. Молатаў.)

§ 3. З вялікай літары пішуцца індывідуальныя імёны людзей, імёны па бацьку, прозвішчы, псеўдонімы, клічкі: *Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала), Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч (Якуб Колас), Мікалай Францавіч Гастэла, Канстанцін Сяргеевіч Заслонаў, Мікіта Батоўкін, Георгій Скарына, Кастусь Каліноўскі, Сямён Полацкі.*

Заўвага 1. Розныя часціцы і артыклі пры іншамоўных імёнах і прозвішчах пішуцца з малой літары праз злучок або з апострафам: *ван-Бетховен, Абд-эль-Керым, Нур-эд-Дын, Жанна д'Арк.*

Заўвага 2. Кітайскія імёны (яны ставяцца пасля прозвішча) пішуцца па складах праз злучок, пры гэтым першы склад пішацца з вялікай літары (прозвішчы-ж, незалежна ад колькасці складоў, пішуцца злітна): *Фын* (прозвішча) *Юй-сян* (імя), *Мао* (прозвішча) *Цзэ-дун* (імя).

Заўвага 3. Індывідуальныя імёны людзей, якія набылі нарыцальны сэнс або замацавалі за сабой назвы адзінак, назвы прадметаў, відаў вопраткі, зброі і інш., або ўжываюцца ў агідлівым значэнні, пішуцца з малой літары: *манілавы, абломавы, ловелас, квіслінгі, азефы, ом, ампер, кулон* (фізічныя адзінкі); *форд* (аўтамабіль); *фрэнч, галіфэ* (віды вопраткі); *маўзер, браўнінг* (віды зброі) і да іх падобныя.

Але, калі індывідуальныя імёны людзей, не стаўшыя нарыцальнымі, ужыты ў нарыцальным сэнсе, тады яны пішуцца з вялікай літары: *Соцыялістычныя метады працы кожны дзень нараджаюць новых Стаханавых, Бусыгіных, Крываносаў.*

Заўвага 4. З малой літары пішуцца агульныя імёны, утвораныя ад імёнаў уласных: *ленінец, марксіст, стаханавец, пушкініст і г. д.*

Заўвага 5. Назвы, якія паказваюць нацыянальную прыналежнасць людзей і месцапражыванне, таксама пішуцца з малой літары: *беларус, украінец, грузін, масквіч, мінчанін, віцяблянін.*

Заўвага 6. Назвы пасад, званняў, навуковых ступеняў і ганаровых званняў пішуцца з малой літары: *міністр, прэзідэнт, маршал, генерал, заслужаны дзеяч навукі, доктар, кароль, сенатар, папа, шах, хан, паша.*

Заўвага 7. У вышэйшых ганаровых званнях СССР: *Генералісімус Савецкага Саюза, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы, Маршал Савецкага Саюза* — кожнае слова пішацца з вялікай літары.

Заўвага 8. Такія тытулы, пасады і званні, як *міністр, пасол, прэзідэнт акадэміі і інш.*, у афіцыяльных дакументах і пры падкрэсліванні ветлівасці і павагі пішуцца з вялікай літары.

§ 4. З вялікай літары пішуцца:

*а)* індывідуальныя міфалагічныя імёны: *Апалон, Зеўс, Пярун, Малох;*

Заўвага. Індывідуальныя міфалагічныя імёны, якія ператварыліся ў імёны нарыцальныя, пішуцца з малой літары: *малох імперыялізма.* З малой літары пішуцца і назвы, якія азначаюць катэгорыі міфалагічных істот: *русалка, муза, німфа.*

*б)* клічкі жывёл: *Халстамер* (конь), *Каштанка* (сабака), *Мурка* (кот);

*в)* назвы дзеючых асоб у байках, казках: *Асёл, Заяц, Лісіца, Хлеб, Дуб.*

§ 5. З вялікай літары пішуцца прыметнікі, утвораныя ад уласных імёнаў людзей, міфалагічных істот і клічак жывёл:

*а)* калі яны ў поўным сэнсе слова выра-

жаюць прыналежнасць чаго-небудзь дадзенаму чалавеку, міфалагічнай істоце і г. д., напрыклад: *Купалавы творы, Насовічаў слоўнік, Тамарына лялька, Тарасава хата, Мурчыны кацяняты, Зеўсавы стрэлы* і да іх падобныя;

*б) калі прыметнікі, утвораныя ад уласных* іменаў, уваходзяць у склад назваў, роўных па сэнсу назвам са словамі *імя, памяці* каго-небудзь: *Сталінская прэмія* (прэмія імя Сталіна), *Купалаўскія чытанні* (чытанні памяці Купалы).

Заўвага 1. З малой літары пішуцца прыметнікі, утвораныя ад індывідуальных іменаў людзей, калі гэтыя прыметнікі паказваюць на сувязь з імем асобы, а не на прыналежнасць ёй: *купалаўскі стыль* (гэта азначае, што ў кагосьці стыль, падобны да стылю Купалы), *эзопаўская мова* (мова як у Эзопа), *пастэраўская станцыя, стаханаўскія метады* і г. д.

Заўвага 2. З малой літары пішуцца прыметнікі, утвораныя ад уласных геаграфічных назваў, калі гэтыя прыметнікі ўжываюцца як агульныя, а не ўласныя назвы: *рамантуюцца мінскія вуліцы, адбудоўваюцца беларускія гарады,* але: *дэлегацыя прыбыла на Беларускі вакзал* (у Маскве).

Заўвага 3. Прыслоўі, утвораныя ад уласных назваў, заўсёды пішуцца з малой літары: *па-варашылаўску, па-беларуску, па-стаханаўску.*

§ 6. З вялікай літары пішуцца:

*а)* індывідуальныя астранамічныя назвы, апрача службовых і родавых наменклатурных назваў тыпу: *зорка, камета, су-*

*зор'е* і г. д. напрыклад: *Марс, Казярог, зорка Венера, сузор'е Пса, камета Галея, туманнасць Андрамеды.*

З а ў в а г а. Словы: *сонца, месяц, зямля*—пішуцца з вялікай літары тады, калі яны ўжываюцца ў якасці астранамічных назваў: *навакол Сонца абяртаюцца наступныя планеты: Меркурый, Венера, Зямля (з сваім спадарожнікам Месяцам), Марс, Юпітэр, Сатурн, Уран, Нептун і Плутон; радыус Зямлі,* але: *апрацоўка зямлі.*

*б)* Індывідуальныя геаграфічныя і тэрытарыяльныя назвы, апрача службовых і родавых наменклатурных назваў тыпу: *востраў, рака, заліў, мыс, тропік, плошча, вуліца, мост* і г. д., напрыклад: *Урал, Еўропа, Дарданелы, Грэнландыя, Балеарскія астравы, мыс Чэлюскін, гара Магнітная, пік Сталіна, Атлантычны акіян, Ладажскае возера, Паўночны полюс, Масква-рака, Чорнае мора, Беламорска-Балтыйскі канал, тропік Рака, Дварцовая плошча, вуліца Горкага, Летні сад, Вялікі Каменны мост, Баравіцкія вароты, Вялікі Крэмлёўскі палац.*

З а ў в а г а 1. Калі астранамічныя або геаграфічныя назвы складаюцца з некалькіх слоў, тады ўсе словы пішуцца з вялікай літары, апрача службовых і родавых: *Вялікая Мядзведзіца, Новая Гвінея, Малыя Альпы, Вялікія Лукі, Старыя Дарогі* і г. д.

З а ў в а г а 2. У іншамоўных геаграфічных назвах, якія складаюцца з некалькіх частак і пішуцца праз злучок, кожная частка пішацца з вя-

лікай літары: *Махач-Кала, Аму-Дар'я, Чатыр-Даг, Ісык-Куль, Лоб-Нор* і г. д.

Заўвага 3. Назвы частак свету: *усход, захад, поўдзень, поўнач*—пішуцца з малой літары, але, калі гэтыя назвы ўжываюцца ў значэнні краін або народаў, тады яны пішуцца з вялікай літары: *гісторыя Захаду, народы Усходу,* але: *параход узяў курс на поўнач.*

**§ 7.** Назвы дзяржаў і аўтаномных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак пішуцца з вялікай літары. Калі назва дзяржавы складаецца з некалькіх слоў, тады ўсе словы пішуцца з вялікай літары, за выключэннем службовай і родавай наменклатуры, напрыклад: *Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, Башкірская Аўтаномная Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, Заходне-Казахстанская вобласць, Эвенкійская нацыянальная акруга, Югаславія, Балгарыя, Францыя, Злучаныя Штаты Амерыкі, Французская Экватарыяльная Афрыка* і інш.

Заўвага 1. З вялікай літары пішуцца і неафіцыяльныя назвы дзяржаў, вобразныя геаграфічныя назвы: *Совецкі Саюз, Краіна Советаў, Советы* (у значэнні СССР), *Соцыялістычная Радзіма* (у значэнні СССР), *Чырвоная Масква, Чырвоная Сталіца.*

Заўвага 2. У асобым стылістычным ужыванні з вялікай літары могуць пісацца і нарыцальныя імёны: *Радзіма* (у значэнні СССР), *Чалавек* (у значэнні ўсяго чалавецтва).

Заўвага 3. У назвах совецкіх рэспублік слова *рэспубліка* пішацца з вялікай літары: *Украінская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка.* Калі-ж рэч ідзе не аб назве дзяржавы, а аб форме кіраўніцтва ў ёй, тады слова *рэспубліка* пішацца з малой літары: *французская рэспубліка, буржуазная рэспубліка.*

§ 8. У назвах гістарычных падзей, эпох, з'яў, твораў мастацтва, гістарычных дакументаў і іншых матэрыяльных помнікаў з вялікай літары пішацца першае слова, а таксама і ўваходзячыя ў іх склад уласныя імёны.

Сюды належаць назвы:

*а)* выражаныя адным назоўнікам, напрыклад: *Кастрычнік* (у значэнні Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі), *Адраджэнне, Рэнесанс, Смута, Рэфармацыя, Брумер;*

Заўвага. Гэтыя-ж словы могуць ужывацца ў якасці імён нарыцальных, і тады яны пішуцца з малой літары: *кастрычнік месяц, стыль рэнесанс, пачалося адраджэнне гаспадаркі.*

*б)* выражаныя злучэннем прыметніка, утворанага ад уласнага імя, з назоўнікам: *Петроўская рэформа, Каралінгская дынастыя* (але: *дапетроўская эпоха, перадналеонаўскія войны*), *Ленскі расстрэл, Палтаўская бітва, Лаўрэнцеўскі летапіс, Парыжская комуна, Версальскі мір;*

Заўвага. У назвах: *Сталінская Канстытуцыя, Совецкая Армія, Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі*

*Флот (Чырвоны Флот), Дзяржаўны Камітэт Абароны* — усе словы пішуцца з вялікай літары.

*в)* выражаныя любым іншым злучэннем з пачатковым прыметнікам або лічэбнікам: *Вялікая Айчынная вайна, Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэвалюцыя, Сямігадовая вайна, Сто дзён* і да іх падобныя.

Заўвага. Назвы гістарычных падзей, эпох, плыняў, якія не з'яўляюцца ўласнымі, пішуцца з малой літары: *феадалізм, палеаліт, крыжовыя паходы, антычны свет, імпрэсіянізм, рэалізм* і інш.

**§ 9.** У назвах вышэйшых партыйных і ўрадавых органаў, профсаюзных арганізацый і ўстаноў Саюза і саюзных рэспублік з вялікай літары пішуцца ўсе словы, якія ўваходзяць у склад назвы, апрача службовых слоў і слоў, узятых у дужкі, а таксама апрача слова *партыя:*

*Усесаюзная Комуністычная партыя (большэвікоў), Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў), Палітычнае Бюро ЦК ВКП(б), Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі, Камісія Партыйнага Кантролю, Усесаюзны Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі, Вярхоўны Совет, Прэзідыум Вярхоўнага Совета, Совет Саюза, Совет Нацыянальнасцей, Совет Міністраў, Вярхоўны Суд, Усесаюзны Цэнтральны Совет Прафесіянальных Саюзаў.*

Заўвага 1. З вялікай літары пішуцца ўсе словы, якія ўваходзяць у склад назваў некаторых міжнародных арганізацый, напрыклад: *Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, Генеральная Асамблея, Совет Бяспекі, Таварыства Чырвонага Крыжа і Паўмесяца.*

Заўвага 2. Іншамоўныя назвы палітычных партый пішуцца з малой літары: *гаміндан, сейюкай і інш.* Але: *Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя.*

**§ 10.** У назвах устаноў і арганізацый (апрача пералічаных у § 9), а таксама цэнтральных і галоўных кіраўніцтваў Совецкага Саюза з вялікай літары пішацца першае слова і ўсе ўласныя імёны, уваходзячыя ў склад гэтых назваў: *Акадэмія навук СССР, Усесаюзная акадэмія сельскагаспадарчых навук імя Леніна, Маскоўскі дзяржаўны ордэна Леніна універсітэт імя М. В. Ламаносава, Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага, Галоўнае кіраўніцтва універсітэтаў Міністэрства вышэйшай адукацыі, Усесаюзны камітэт па справах мастацтва пры Совеце Міністраў СССР, Міністэрства замежных спраў, Дзяржаўная палата мер і вагі, Ветрынскі раённы выканаўчы камітэт.*

Заўвага 1. Калі ў складанай назве за першым прыметнікам ідзе назоўнік або другі прыметнік, які сам выступае ў якасці індывідуальнай назвы дадзенай установы, тады гэты назоўнік або прыметнік таксама пішацца з вялікай літары:

*Дзяржаўны Эрмітаж, Дзяржаўны акадэмічны Малы тэатр* і інш.

Заўвага 2. Калі назвы ўстаноў ужываюцца не ў сваім індывідуальным значэнні, а ў якасці тыповых назваў, тады яны пішуцца з малой літары: *у СССР некалькі акадэмій навук.* У сувязі з гэтым мажліва дваякае напісанне: *Я скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага* (г. зн. навучальную ўстанову, якая так называецца), але: *я скончыў мінскі, а не віцебскі педагагічны інстытут* (г. зн. інстытут, які знаходзіцца ў Мінску, а не ў Віцебску).

**§ 11**. З вялікай літары пішацца першае слова назваў рэвалюцыйных свят і знамянальных дат: *Першае мая, Дзевятае студзеня, Новы год, Міжнародны жаночы дзень* і інш.

Заўвага 1. Калі-ж пачатковы парадкавы лічэбнік у складанай назве напісан лічбай, тады з вялікай літары пішацца наступнае за ім слова: *1-е Мая, 9-ае Студзеня.*

Заўвага 2. Назвы царкоўных свят, пастоў, дзён тыдня, месяцаў пішуцца з малой літары: *каляды, тройца, масленіца, вялікі пост, чацвер, субота, ліпень, верасень.*

**§ 12**. У поўных назвах ордэнаў, калі яны складаюцца з некалькіх слоў, усе словы, апрача службовых і родавых, пішуцца з вялікай літары: *ордэн Леніна, ордэн Чырвонага Сцяга, ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэн Айчыннай вайны I ступені, ордэн Александра Неўскага* і г. д.

Заўвага. У назвах адзнак, якія вылучаюцца двукоссем, з вялікай літары пішацца першае слова і ўсе ўваходзячыя ўласныя назвы: *ордэн «Перамога», ордэн «Знак пашаны», ордэн «Мацi-гераiня», ордэн «Мацярынская слава»,* медалі: *«За абарону Масквы», «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», «За вызваленне Прагі», «Партызану Айчыннай вайны», «Медаль мацярынства»* і да іх падобныя; значкі: *«Выдатны артылерыст», «Выдатны падводнік»* і інш. Але: *«Маршальская Звязда», медаль «Залатая Звязда», медаль «Серп і Молат».*

**§ 13.** Паскладова скарочаныя назвы (абрэвіятуры), утвораныя ад уласных назваў, пішуцца з вялікай літары: *Соўнарком, Наркамзем* і інш.

Заўвага. Гэтыя-ж самыя словы, ужытыя ў значэнні агульных назваў, пішуцца з малой літары: *соўнаркомы і наркамземы саюзных рэспублік.*

Абрэвіятуры, утвораныя ад агульных назваў, пішуцца з малой літары: *калгас, медінстытут, аблвыканком, райком, сельсовет* і інш.

Абрэвіятуры, утвораныя з пачатковых літар ад уласных і агульных назваў, пішуцца вялікімі літарамі: *СССР, БССР, ТАСС, ХТЗ, МТС, ЗІС* і інш.

Заўвага. Калі-ж падобнага тыпу абрэвіятура набыла здольнасць ужывацца ў склонавых формах, тады перад канчаткам ставіцца апостраф: *ЗІС'а,* у *ЗАГС'е* і г. д.

**§ 14**. Ва ўласных індывідуальных назвах, якія даюцца заводам, калгасам, параходам, газетам, часопісам, мастацкім творам і інш., з вялікай літары пішацца першае слова і ўсе ўваходзячыя ў іх склад уласныя імёны: *«Серп і молат»* (завод), *«Прамень комуны»* (калгас), *«Янка Купала»* (параход), *«Чырвоная змена»* (газета), *«Полымя»* (часопіс), *«Раскіданае гняздо»* (назва твора) і інш.

Заўвага 1. У падвойных састаўных назвах з вялікай літары пішацца і першае слова другой назвы: *«Пахаджэнні Чычыкава, або Мёртвыя душы»*.

Заўвага 2. Калі перад умоўнай назвай, якая даецца заводу, калгасу, параходу і інш. ставіцца слова *імя*, тады назва ў двукоссе не бярэцца: *калгас імя Сталіна, Дзіцячы гарадок імя Леніна* і інш.

## Правапіс галосных

**§ 15**. Галосныя *о, э, ё* бываюць толькі пад націскам. Не пад націскам замест *о, э* пішацца *а*: *го́рад — гарады́, жо́луд — жалуды́, цэ́гла — цагля́ны, рэ́кі — рака́, азёры — во́зера*.

**§ 16**. Галосныя *е, ё* змяняюцца на *я* толькі ў першым складзе перад націскам, у астатніх складах пішацца *е*: *зе́млі — зямля́ — земляны́, дзень — дзянёк, сёлы — сяло́ — селяні́н, сёстры — сястра́*. Выключэнне: *тры́ё, ра́дыё, дзевя́ты, дзевя́тка, дзеся́ты, дзеся́тка, дзеся́так, дзеся́тнік*.

З а ў в а г а 1. Склады *ро, ло* не пад націскам часам пераходзяць у *ры, лы: гром — грыміць, крой — крыві, глотка — глытаць*, а ненацискное *е* можа змяняцца на *і:* блеск — блішчыць — бліскавіца, кветка — квітнець.

З а ў в а г а 2. Карэннае (этымалагічнае) *я* незалежна ад націску застаецца нязменным: *пяць, пяцігодка, памяць, дзесяць, дробязь, завязь, дзеянне.*

З а ў в а г а 3. Выключэннем з правілаў 15 і 16 з'яўляюцца інтэрнацыянальна-рэволюцыйныя і вытворныя ад іх словы, у якіх *о, э, е* захоўваюцца без змены незалежна ад націску: *совет, большэвік, рэволюцыя, соцыялізм, пролетарыят, комуна, комсамол, піонер, Комінтэрн, Профінтэрн.*

З а ў в а г а 4. У словах іншамоўнага паходжання *о* не пад націскам пераходзіць у *а*, а *е* застаецца нязменным, пры чым іншамоўнае *е* пасля *д, ж, р, т, ч, ш, ц* перадаецца праз *э: прафесар, каапераця, арганізацыя, методыка, эстафета, дэлегат, дэмакратыя, тэатр, жэстыкуляцыя, рэканструкцыя, цэнтральны.*

З а ў в а г а 5. У нязменных словах з канцовым *о (бруто, нето, інкогніто, дынамо, фото, кіло, кіно, аўто, Осло, Барнео* і інш.), а таксама ў словах *оксо і орсін* у адрозненне ад *окса* і *арсін о* захоўваецца без змены. У складаных-жа словах канцовае *о* зменьваецца на *а: кілаграм, кінаапаратар, фотакарэспандэнт, веламотаспорт* і інш. Але: *радыёвяшчанне, радыёграма, радыёфікацыя, радыёстанцыя* і да іх пад.

З а ў в а г а 6. Даўно запазычаныя словы: *гандаль, характар, літара, літаратура, дзяжурства, адрас, сакратар, далікатны, рамонт, чамадан, бухгалтар, каляндар* і інш. поўнасцю падпарадкуюцца правапісу беларускіх слоў.

**§ 17.** У словах іншамоўнага паходжання

злучэнні *іо* (не пад націскам) і *іа* перадаюцца праз *ія*, а пасля зацвярдзелых *ж, ч, ш, ц, р* і пасля *д, т* — праз *ыя: патрыяты́чны, сацыялісты́чны, геніяльны, бібліягра́фія, біяло́гія, бібліятэ́ка, дыягра́ма.* Выключэнне: *ра́дыё, тры́ё.*

Злучэнне *іо* пад націскам перадаецца праз *іё (ыё): патрыёт, аксіёма, стадыён.* Выключэнне: *ёд.*

Злучэнне *іе* перадаецца праз *іе (ые): гігіена, аудыенцыя, арыентацыя, іерогліф, дыета.*

**§ 18.** Нескладовае *ў* пішацца пасля галосных у сярэдзіне і ў канцы слоў: *воўна, жоўты, пісаў, рабіў,* а таксама ў пачатку слоў і паміж словамі пасля галосных, за выключэннем тых выпадкаў, калі яно стаіць у пачатку абзаца, або пасля знака прыпынку.

Заўвага 1. У некаторых іншамоўных словах *у* пасля галосных можа ўтвараць самастойны склад: *кансіліум, калёквіум, прэзідыум.*

Заўвага 2. Ва ўласных назвах у пачатку заўсёды пішацца *у* (складовае): *Урал, Украіна, Улас, Урэчча, Унеча, Ушачы.*

**§ 19.** Перад пачатковымі націскнымі галоснымі *о, у* пішацца прыстаўное *в: во́стры, во́рыва, во́бласць, ву́чань, ву́галь.*

Прыстаўное *в* пішацца таксама і ў сярэдзіне слова, калі націскныя *о, у* становяцца пасля галосных: *наву́ка, паву́к, наво́страны, перава́раны.*

Перад ненаціскным *у* пішацца прыстаўное *в* тады, калі *у* не з'яўляецца прыставачным і калі яно не развілося з *в*: *вучы́цца, вужа́ка, вуса́ты*, але: *уча́стак, ува́га, удо́ўж, ула́да, ура́д*.

Перад збегам зычных у пачатку слова, першымі з якіх будуць *р, м, л*, пішацца прыстаўное *і*, пры некаторых словах — *а*: *іржышча, іржа, ільну, імша, аржаны*.

Заўвага. У геаграфічных назвах і словах іншамоўнага паходжання прыстаўныя не пішуцца: *Орша, Урал, Ула, орган, ода, ордэн, опера, унікум, урна, унія, іронія*. Выключэнне: *гісторыя*.

## Правапіс зычных

**§ 20**. Звонкія і глухія, шыпячыя і свісцячыя зычныя, калі яны стаяць адна побач з другой, могуць у вымаўленні прыпадабняцца. Каб не зрабіць памылкі пры напісанні, варта змяніць слова або падабраць другое слова таго-ж кораня, каб пасля невыразнага зычнага стаў галосны або санорны ці *в*: *блізка — блізенька, казка — казачка, будка — будачка, ножка — ножачка, следчы — следам, носьбіт — насіць, гарадскі — гарадок, здагадка — здагадлівы, падпісчык — падпісваць*.

Падобным чынам можна праверыць невыразны зычны і на канцы слоў: *сад — садок, молат — малаток, снег — снегу*.

Заўвага 1. Гэта правіла не пашыраецца на прыстаўкі *з-*, *уз-*, *раз-*, *без-*, *цераз-*, у якіх перад глухімі зычнымі *з* пераходзіць у *с*: *ссыпаць, усхваляваць, раскідаць, бясспрэчна, цераспалосіца.*

Заўвага 2. У словах: *рошчына, шчасце* прыпадабненне зычнага *с* перадаецца на пісьме праз *ш*.

§ 21. Мяккасць зычных перад мяккімі на пісьме не адзначаецца: *дзверы, цвёрды, цвісці, смех, звер, насенне, смеласць.*

Мяккі знак пішацца:

*а)* пасля этымалагічнага мяккага зычнага незалежна ад таго, якім зычным, мяккім ці цвёрдым, з'яўляецца наступны: *пісьмо, барацьба, цьмяны, толькі, вазьму, вельмі, бацька;*

каб не памыліцца пры пісьме, трэба змяніць слова так, каб пасля мяккага зычнага стаў цвёрды; калі ў такім становішчы мяккасць папярэдняга зычнага не траціцца, трэба пісаць пасля яго мяккі знак: *пісьменнік— пісьмо, бацькі — бацька, вазьмі — вазьму, цьмяны — цьма;*

*б)* на канцы слоў пасля мяккіх зычных: *студзень, агонь, мядзведзь, радасць, пяць, будаваць, перамагаць;*

*в)* пасля *л* перад суфіксам *ц*, калі гэтае *ц* не чаргуецца з *к*: *комсамол — комсамольцы, мыла — мыльца, рыла — рыльца,* а таксама ў імёнах і прозвішчах: *Ілья, Васільеў* і ў словах: *лье, льецца, льюць, разальюць, перальюць* і падобных;

*г)* пасля мяккага *н* перад суфіксамі *-чык, -ск,-к: песня — песенька, ліпень — ліпеньскі, камень — каменьчык;* выключэнне: *кончык, венчык, конскі,* а таксама прыметнікі, утвораныя ад геаграфічных назваў, напрыклад: *любанскі, казанскі, кубанскі, разанскі, мезенскі* і інш.;

*д)* у суфіксах *-еньк-, -эньк-, -аньк-: малады—маладзенькі, гарачы—гарачанькі, стары — старэнькі.*

§ 22. Заўсёды цвёрдыя *д, т,* стаўшы перад галоснымі *е, ё, і, ю, я,* змякчацца не могуць, а пераходзяць у *дз* і *ц: лета — леце, люд— людзі, мяту — мяцеш.* (Аб правапісе пачатковых *Д, Т* у прозвішчах і геаграфічных назвах гл § 31, заўв. 1).

У словах іншамоўнага паходжання *д* і *т* захоўваюцца нязменна. Пры гэтым іншамоўныя галосныя *е, і, ю* пасля *д* і *т* перадаюцца адпаведна галоснымі *э, ы, у: дэбаркадэр, дырэктыва, натуралізм, дыяграма.*

Заўвага 1. Суфіксальнае *т* перад мяккім *в* не змяняецца: *у таварыстве, аб кіраўніцтве, брытве, клятве, амяртвенне, Літве.*

Заўвага 2. Гукі *д, т* у словах іншамоўнага паходжання пераходзяць у *дз, ц:*

*а)* перад суфіксам *-ір-: балаціроўка, манціраваць, брыгадзір, пункцір;*

*б)* перад суфіксам *-ін-: гардзіна, карціна, гільяціна, нікацін, жэлацін, кабардзінец,* але: *бурштын;*

*в)* перад суфіксамі *-ец-, -еец-: галандзец, фінляндзец, індзеец, гвардзеец;*

*г)* перад націскным суфіксам *-ер-* (*-ёр-*) у словах, што азначаць асобу чалавека, і ў вытворных ад іх словах: *акцёр, білецёр, парламенцёр, пражэкцёр,* але: *містэр, кампóстэр, кільвáтэр, клéйстэр, партэ́р, саліттэ́р;*

*д)* перад суфіксам *-ік-*, калі ён надае слову памяншальнае значэнне: *білецік, эпізодзік, канцэрцік, эцюдзік,* але: *Арктыка, арыфметыка, гімнастыка, методыка, публіцыстыка;*

*е)* перад канчатковым *е: аб універсітэце, студэнце;*

*ж)* у словах: *дзюна, эцюд, бардзюр, уверцюра, нацюрморт, цір, цюль, арцель, мініяцюра.*

**§ 23.** Падоўжанае вымаўленне зычнага перадаецца яго падваеннем: *карэнне, двукоссе, ламачча, заціšша, вяселле.* Падвойвацца могуць гукі: *ж, дз, з, л, н, с, ц, ч, ш,* пры чым, падвойнае *дз* на пісьме перадаецца праз *ддз: суддзя, ладдзя, разводдзе.*

Гукі-ж *б, в, м, п, ф, р, г, к, х* ніколі падоўжанымі не бываюць. Раздзельнае вымаўленне пералічаных гукаў з галоснымі *е, я, ё перадаецца* апострафам: *надвор'е, атрэп'е, сям'я, саф'ян, куп'ё.*

Заўвага 1. Раздзельнае вымаўленне зычнага з наступным галосным у словах іншамоўнага паходжання адзначаецца апострафам: *рант'е, сен'ёр, ад'ютант.* Выключэннем з гэтага правіла з'яўляецца зычны *л,* пасля якога пры раздзельным вымаўленні пішацца *ь: рэльеф, медальёр, Мальер, мітральеза.*

Заўвага 2. Падвойныя зычныя слоў іншамоўнага паходжання перадаюцца ў беларускай мове

адным зычным: *траса, тралейбус, трупа, тунель, місія.*

Выключэнне: *бонна, ванна, манна, Мекка.*

§ 24. У злучэннях *здн, рдн, рдц, стл, стн* зычныя *д* і *т* выпадаюць як у вымаўленні, так і на пісьме: *позны, міласэрны, сэрца, шчаслівы, існаваць.*

§ 25. Прыстаўкі *аб-, ад-, над-, пад-, перад-* пішуцца нязменна незалежна ад наступнага гука ў слове: *абсушыць, адказаць, паддаць, падтрымаць, перадваенны.*

У прыстаўках *з-, без-, раз-, уз-, цераз-* перад глухімі зычнымі *з* змяняецца на *с*: *сказаць, бясстрашны, распілаваць, усход, цераспалосіца.*

Заўвага. У словах *сэканоміць, сарганізаваць, сагітаваць, сабра́ць* ужываецца прыстаўка *с-* (са-).

§ 26. Прыстаўкі, што канчаюцца на зычны, ад карэнных *е, ё, ю, я* аддзяляюцца апострафам: *аб'яднанне, ад'езд, раз'юшаны.* Карэннае *і* пасля прыставак на зычны пераходзіць у *ы*, а пасля прыставак на галосны—у *й*: *сыграць — зайграць, безыдэйны, выйсці, знайсці,* але: *заікацца, заіскрыцца, заінелы.* Перад прыстаўкамі *пры-, вы- й* можа апускацца: *прышоў, вышаў, прыду, прыдзеш.*

§ 27. Злучэнні карэнных *к, т, ц, ч* з суфіксальным *с* перадаюцца праз *ц*: *большэвік — большэвіцкі, совет—совецкі, брат—брацкі, шавец — шавецкі, ткач — ткацкі.*

§ 28. Злучэнні карэнных *г, ж, з, с, х, ш* з суфіксальным *с* перадаюцца праз *с*: *многа — мноства, прыгожы — прыгоства, князь — княства, беларус — беларускі, птах — птаства, таварыш — таварыскі.*

Заўвага. Выключэнне з правіл 27 і 28 складаюць геаграфічныя назвы і вытворныя ад іх словы, у якіх зычныя *г, ж, з, х, ш,* а часам і *к* перад суфіксальным *с* захоўваюцца: *выбаргскі, узбекскі, дарагабужскі, каўказскі, казахскі, латышскі,* але: *турэцкі, чэхаславацкі.* Гукі *г, х* ў некаторых геаграфічных назвах чаргуюцца з *ж, ш*: *волжскі, чэшскі.*

§ 29. Гук *д* перад суфіксальным *с* захоўваецца нязменна: *сталінградскі, грамадскі, гарадскі, людскі.*

## Правапіс імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў

§ 30. Беларускія імёны, прозвішчы і геаграфічныя назвы падпарадкоўваюцца ўсім правілам беларускага правапісу: *Сяргей, Мікалай, Марцін, Хрысціна, Ганна, Гастэла, Даватар, Смалячкоў, Дзянісаў, Віцебск, Слуцк, Полацк, Рагачоў, Магілёў, Парэчча, Замошша, Загалле, Запруддзе, Мазыр, Нясвіж, Целяханы, Капыль, Гродна, Жарнасекі.*

§ 31. Імёны, прозвішчы і геаграфічныя назвы іншых моў пішуцца адпаведна пра-

вапісу слоў іншамоўнага паходжання, а менавіта падпарадкоўваюцца:

*а)* правілу пераходу ненаціскнога *о* ў *а* і правілу захавання ненаціскных *э, е: Александр Сергеевіч Пушкін, Тарас Грыгор'евіч Шэўчэнка, Масква, Ноўгарад;*

*б)* правілу аб напісанні галосных пасля зацвярдзелых зычных і пасля *д, т: Пісарэў, Жэлябаў, Разань, Чэлябінск, Жытомір, Чэрэпавец;*

*в)* правілу аб пераходзе *в* у *ў* на канцы складоў: *Папоў, Чэхаў, Ганчароў, Шолахаў, Каўказ, Кіеў, Свердлоўск;*

*г)* правілу аб пераходзе злучэнняў *т* з суфіксальным *с* у *ц: Іркуцк, іркуцкі, Якуцк, якуцкі.*

Заўвага 1. Іншамоўныя прозвішчы, імёны і геаграфічныя назвы не перакладаюцца, а пачатковыя літары захоўваюцца без змены: *Тіхвін, Тюмень, Денісаў, Владзікаўказ, Одэса, Толстой, Ерэван, Эрзерум, Еўпаторыя.* Але ў словах, вытворных ад уласных геаграфічных назваў, пачатковая літара можа змяняцца: *Одэса — адэскі, адэсіт, Орол, арлоўскі, Тіхвін, ціхвінскі.*

Выключэнне: *Еўропа, Егіпет.*

Заўвага 2. Калі геаграфічныя назвы складаюцца з некалькіх слоў, якія могуць ужывацца асобна, гэтыя назвы перакладаюцца: *Далёкі Усход, Паўночны Каўказ, Чырвонае мора, Чырвоная плошча.*

Заўвага 3. Наступныя абрэвіятуры пішуцца так: *ВКП(б), ВЛКСМ, ВЦСПС.*

## Правілы пераносу слоў

**§ 32.** Слова пераносіцца па складах. Адна літара не пакідаецца і не пераносіцца. Пры наяўнасці збегу зычных, падзел на склады вольны: *ха-та, кні-га, вя-сна і вяс-на.*

**§ 33.** Літары *й, ў, ь* нельга аддзяляць ад папярэдніх: *чай-ка, вай-на, галоў-ка, кароў-ка, камень-чык, паль-чык.*

**§ 34.** Нельга аддзяляць зычную прыстаўкі, калі за ёй ідзе таксама зычная, напрыклад, нельга дзяліць: *па-двезці, ра-зглядзець, на-дтрэснуты,* а трэба: *пад-везці, раз-гледзець, над-трэснуты.*

**§ 35.** *Дж* і *дз* пры пераносе слова не дзеляцца: *па-дзея, ра-дзі-ма, ла-джу.* Не трэба блытаць зычныя *дж, дз* са злучэннем зычных *дж, дз: пад-земны, пад-жары.*

**§ 36.** Нельга адрываць зычную кораня, якая стаіць перад суфіксам, ад кораня: *мін-скі,* а не *мі-нскі, дагляд-чык,* а не *дагля-дчык.*

**§ 37.** Літара *ы* пасля прыстаўкі пакідаецца пры прыстаўцы: *пады-граць, разы-мшыць.*

**§ 38.** Падвойныя зычныя пры пераносе слова дзеляцца: *змаган-не, двац-цаць, гал-лё, двукос-се, ламач-ча.*

## Правапіс складаных слоў

**§ 39**. Калі другая частка складанага слова ўжываецца асобна, тады першая частка мае пабочны націск, пад якім у даным слове аднаўляецца этымалагічны галосны. У гэтым выпадку абедзве часткі слова падлягаюць асобна правілу аб аканні і яканні. Злучальныя галосныя *а, е* адносяцца да першай часткі складанага слова. *Гало́ўнакама́ндуючы, до́ўгачака́ны, до́брасумле́ннасць, ву́глездабы́ча, сво́еасаблі́вы, кро́вазваро́т, няпо́ўнацэ́нны, со́леўтварэ́нне, со́цспабо́рніцтва, што́дзённы, по́лісінтэты́чны, по́ліклініка,* але: *дзе́япрыме́тнік, дзе́япрысло́ўе.*

**§ 40**. Калі ў складаным слове першае з'яўляецца двухскладовым з апошнім адкрытым націскным складам, тады націск пераходзіць на першы склад і аднаўляе этымалагічны галосны: *вада́+ачышчэ́нне=во́даачышчэ́нне, гара́+утварэ́нне=го́раўтварэ́нне; зямля́ + карыста́нне = зе́млекарыста́нне* і г. д.

**§ 41**. Складаныя словы, у якіх першай часткай з'яўляецца *паў,* падлягаюць правапісу простых слоў: *паўме́тра, паўсо́тні,*

*паўтрацяʹ, паўя́блыка, паўа́ркуша, запаўцаны́, дапаўсме́рці, упаўго́ласа.*

§ 42. Складаныя словы, у якіх першая частка выражана лічэбнікам у форме роднага склону, незалежна ад другой часткі слова пішуцца так, як вымаўляюцца гэтыя лічэбнікі ў родным склоне: *сямігóдка, дзесяцігóддзе, саракагрáдусны.*

Заўвага. Складаныя-ж словы з лічэбнікам *сто* ў першай частцы пішуцца ў адпаведнасці з § 39 і § 43, а менавіта: *стóмільённы, стóпрацэ́нтны; стагóддзе, стагалóсы.*

§ 43. Калі другая частка складанага слова з'яўляецца скарочаным словам або самастойна не ўжываецца, тады ўсё слова і вытворныя ад яго словы пішуцца, як простыя: *бранянóсец, землярóб, канявóдства, чарназём, лабагрэ́йка, вастранóсы, фатагрáфія.*

§ 44. Гэтаму-ж правілу падлягаюць складана-скарочаныя словы (абрэвіятуры) тыпу: *гаркóм, дзяткóр, мясцкóм, камсóд, прафкóм, калгáс* і да іх падобныя.

Выключэнне складаюць словы: *селькóр, спецкóр, сельпó, легпрóм, ваенкóм, ваенкóр.*

Заўвага. Правілам правапісу складаных слоў адпаведна падлягаюць і складаныя прозвішчы людзей: Даўгару́кі, Дабравóльскі, Вадап'янаў, Сталéтаў.

## Правапіс назоўнікаў

§ 45. У давальным і месным склонах назоўнікі першага скланення з мяккай асновай маюць канчатак *-і*: *зямлі, аб зямлі, лазні, аб лазні, чытальні, аб чытальні.*

§ 46. Канчатак *-е* ў давальным і месным склонах маюць назоўнікі жаночага роду першага скланення з цвёрдай асновай: *хаце, аб хаце, машыне, аб машыне, вясне, аб вясне.*

Заўвага. Гукі *г, х,* у аснове назоўнікаў у давальным і месным склонах чаргуюцца з *з, с*: *кніга — аб кнізе, страха — аб страсе.*

§ 47. Назоўнікі першага скланення, што азначаюць асобу чалавека, уласныя імёны і прозвішчы, з націскнымі канчаткамі пры цвёрдай аснове ў давальным і месным склонах маюць форму на *-е́*: *Кузьма́ — Кузьме́, Крапіва́ — Крапіве́, Серада́ — Серадзе́;* пры мяккай аснове *-і*: *старшыня́ — старшыні́, Патэбня́ — Патэбні.*

Заўвага. Гэтыя-ж назоўнікі ў творным склоне маюць канчатак *-о́й, -ёй*: *Кузьмо́й, Крапіво́й, Серадо́й, Патэбнёй, старшынёй.*

Назоўнікі, што азначаюць асобу чалавека, уласныя імёны і прозвішчы, з ненаціскнымі канчаткамі ў давальным і месным склонах пры цвёрдай аснове маюць форму на *-у*: *Скары́на — Скары́ну, Купа́ла — Купа́лу, Гле́бка — Гле́бку, Янка — Янку, ста́раста—*

*стárасту;* пры мяккай аснове—*ю: Бядýля— Бядýлю, Варвашэ́ня — Варвашэ́ню, Кóсця— Кóсцю, дзядýля — дзядýлю.*

Заўвага. Гэтыя-ж назоўнікі ў творным склоне маюць канчатак *-ам, -ем: Скары́нам, Купáлам, Глéбкам, Янкам, Бядýлем, Варвашэ́нем, Кóсцем, дзядýлем.*

**§ 48.** Назоўнікі першага скланення з зацвярдзелай асновай, а таксама з асновай на *к* не пад націскам у давальным і месным склонах маюць канчатак *-ы: мяжá — мяжы́, дáча—дáчы, дзéжка — дзéжцы.* Назоўнікі з асновай на *к* пры націскным канчатку ў гэтых склонах маюць форму на *э: ракá — рацэ́, рукá — руцэ́, лускá — лусцэ́, дачкá — дачцэ́.*

Заўвага. Назоўнікі з падобнымі асновамі, калі яны азначаюць асобу чалавека мужчынскага роду, у давальным і месным склонах маюць канчатак *-у: бáцька — бáцьку, Гры́ша — Гры́шу.*

**§ 49.** Назоўнікі другога скланення мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку маюць пераважна канчаткі *-а, -я,* але значная частка назоўнікаў пішацца і з канчаткам *-у, -ю.* Каб не памыліцца ў напісанні канчатка, трэба засвоіць катэгорыі назоўнікаў, якія пішуцца з канчаткам *-а, -я* і якія— з канчаткам *-у, -ю.*

З канчаткамі *-а,* або *-я* пішуцца:

*а)* назоўнікі, што азначаюць жывыя прадметы або што ўяўляюцца жывымі прадме-

тамі: *студэнта, Івана, арла, каня, галкіпера, Апалона, ваўкалака, канібала;*

*б)* назоўнікі, што азначаюць нежывыя, але непадзельныя прадметы, г. зн. такія, частка якіх не можа называцца іменем цэлага прадмета: *дома, камбайна, пяра, кажуха, збана, агурка, клёна* (у сэнсе адзіночнай расліны), *каменя* (у сэнсе адзіночнага прадмета);

*в)* назоўнікі, што азначаюць назвы ўстаноў, грамадскіх і гаспадарчых арганізацый, прадпрыемстваў, насельных пунктаў, вайсковых падраздзяленняў і часцей: *камсамола, атрада, калгаса, завода, палка, батальёна, Мінска, горада;*

*г)* назоўнікі, што азначаюць назвы сацыяльных фармацый, тэорый, вучэнняў, літаратурных і палітычных плыняў і стыляў мастацтва: *комунізма, дарвінізма, марксізма, класіцызма;*

Заўвага. Па аналогіі з назоўнікамі данай катэгорыі набываюць канчатак *-а* ўсе назоўнікі з суфіксам *-ізм*: *гераізма.*

Выключэнне. Усе назвы хвароб пішуцца з канчаткам *-у*: *рэўматызму.*

*д)* назоўнікі, што азначаюць назвы частак цела, месяцаў, мер, грошай: *пальца, локця, воласа* (у значэнні адзіночнага прадмета), *верасня, метра, рубля, грама,* а таксама: *года, тыдня;*

*е)* назоўнікі, што азначаюць вузка навуко-

выя тэрміны, спартыўныя і ваенныя назвы, назвы танцаў: *анода, ампера, катэта, гола, браса, вальса, азімута;*

*ж)* назоўнікі, што азначаюць хімічныя элементы і злучэнні: *барыя, алюмінія, ангідрыда, азона, ментола.*

Заўвага. Даная катэгорыя назоўнікаў можа ўжывацца і з канчаткам *-у,* калі ў кантэксце, у якім яны выступаюць, гаворыцца аб іх, як аб матэрыяле, рэчыве шырокага ўжытку ці падкрэсліваецца колькасны бок іх. Напрыклад: *балон азону, воз фасфарыту, пад бульбу падсыпалі суперфасфату.* У такім значэнні гэтыя назоўнікі набліжаюцца да наступнай катэгорыі. (Гл. § 50).

**§ 50.** З канчаткамі *-у* або *-ю* пішуцца:

*а)* назоўнікі, што азначаюць зборныя прадметы, матэрыял, рэчывы шырокага ўжытку і наогул прадметы, частку якіх можна назваць іменем цэлага прадмета: *лесу, дубу* (у значэнні зборнага прадмета і матэрыялу), *пяску, гіпсу, цэменту, торфу, бярэзніку, туману, ячменю, лёду.* Сюды-ж трэба аднесці назвы страў, напіткаў: *крупніку, гуляшу, абрыкаціну, квасу.* Выключэнне: *айса, хлеба;*

*б)* назоўнікі, што азначаюць прасторавыя паняцці: *лугу, выгану, папару, логу, лесастэпу;*

Заўвага. Назоўнікі з памяншальным значэннем, утвораныя ад зборных-прасторавых і прасторавых пішуцца з канчаткам *-а: садка, ляска, лужка, беражка, лясочка, лужочка, гаёчка.*

*в)* назоўнікі, што азначаюць абстрактна-разумовыя паняцці, прыродныя з'явы, хваробы, а таксама назоўнікі аддзеясло̆ўныя: *розуму, страху, часу, ладу, парадку, болю, адпачынку, збору, пачатку, гуку, жалю, роду, прымусу, друку, руху, дажджу, інею, грому, марозу, кашлю, коклюшу, тыфу, рэўматызму.*

§ 51. Назоўнікі з мяккай асновай другога скланення мужчынскага роду ў творным склоне маюць канчатак *-ём* (пад націскам), *-ем* (не пад націскам): *канём, кулём, ву́галем, ка́менем.*

§ 52. Канчатак *-е* ў месным склоне маюць назоўнікі другога скланення з цвёрдай асновай, а таксама з асновай на *г, х,* калі яны чаргуюцца з *з, с: лес — у лесе, плот — на плоце, стог — на стозе, гарох — у гаросе.*

Заўвага. Назоўнікі з цвёрдай асновай, калі яны азначаюць асобу чалавека, часам могуць мець канчатак *-у: дзед — аб дзеду, Іван — аб Івану, Юстын — аб Юстыну.*

§ 53. Канчатак *-і* ў месным склоне маюць назоўнікі другога скланення з мяккай асновай, а канчатак *-ы* — з зацвярдзелай: *прамень — аб прамені, камень — аб камені, вучэнне — аб вучэнні, ліхтар — аб ліхтары, камар — аб камары, гараж — аб гаражы, палац — аб палацы, шалаш — аб шалашы.*

Заўвага. Калі назоўнікі з падобнымі асновамі азначаюць асобу чалавека, то маюць канчаткі

*-ю, -у: герой — аб герою, вучань — аб вучню, каваль — аб кавалю, Міхась — аб Міхасю, шахцёр — аб шахцёру, друкар — аб друкару, пясняр — аб песняру.*

**§ 54.** Канчатак *-у* ў месным склоне другога скланення маюць назоўнікі з асновай на *к*, а таксама на *г, х*, калі яны не чаргуюцца з *з, с*: *садок — у садку, крук — на круку, лог — у лагу, мох — у імху, смех — аб смеху.*

**§ 55.** Канчатак *-у* (пры зацвярдзелай аснове) і *-ю* (пры мяккай аснове) у творным склоне маюць назоўнікі III скланення. Пры гэтым апошні зычны асновы, калі ён стаіць пасля галоснага, падвойваецца: *мышшу, ноччу, веліччу, граззю, арцеллю.*

**§ 56.** Назоўнікі з асновай на *р*, на губныя *(б, п, в, ф, м)* і *ў* у творным склоне таксама маюць канчатак *-ю*, але без падваення зычнай асновы: *верф'ю, Об'ю, Свір'ю, гар'ю, сып'ю, кроўю.*

Заўвага. У назоўніках з мяккай асновай, побач з адзначанымі вышэй формамі, дапускаюцца формы на *-ей (-ёю)* пад націскам і *-яй (-яю)* не пад націскам: *граззю* і *гразёй (-ёю), кроўю* і *крывёй (-ёю).*

**§ 57.** У родным склоне множнага ліку назоўніка III скл. дапускаюцца побач з канчаткамі *-ей, -эй* і канчаткі *-яў, -аў: арцелей* і *арцеляў, пячэй* і *печаў.*

**§ 58**. Варта запамятаць склонавыя формы некаторых назоўнікаў з групы т. зв. рознаскланяльных:

*імя, імя (імені), імю (імені), імя, імем (іменем), аб імі (імені); імёны, імёнаў* і г. д.;

*полымя, полымя, полымю, полымя, полымем, аб полымі;*

*вымя, вымя, вымю, вымя, вымем, аб вымі; вымі, вымяў, вымям* і г. д.;

*дзіця, дзіцяці, дзіцяці, дзіця, дзіцём, аб дзіцяці; дзеці, дзяцей, дзецям, дзяцей, дзецьмі (дзецямі), аб дзецях;*

*цяля (цялё), цяляці, цяляці, цяля (цялё), цялём, аб цяляці*. Так, як *цяля,* скланяюцца ўсе іншыя назвы маладых істот: *парася* (ё), *сабачаня* (ё) і г. д.

**§ 59**. У назоўніках тыпу: *селянін, мінчанін* пры ўтварэнні мн. л. *-ін* выпадае: *сяляне, мінчане, армяне, славяне, грамадзяне.*

**§ 60**. Каб не памыліцца, які ўжыць суфікс *-чык-* ці *-шчык-* у назоўніках, што азначаюць прафесіі, трэба памятаць, што прыпадабненне зычнага кораня да суфіксальнага *ч* на пісьме не перадаецца: *перапіс-чык, заказ-чык, перабеж-чык*. Калі пасля карэннай зычнай чуецца *-шчык,* то гэты суфікс трэба і пісаць: *камен-шчык, набор-шчык.*

**§ 61**. Мяккі знак перад суфіксам *-шчык* пішацца толькі пасля *л: пільшчык, махальшчык, тральшчык, падпальшчык, купальшчык.*

§ 62. Мяккі знак пішацца ў суфіксе *- аньк-*, а таксама пасля мяккага *н* перад суфіксам *-к*, і *-чык*: *вішанька, песенька, яблынька, раменьчык, праменьчык, струменьчык*, але: *кончык*.

## Правапіс прыметнікаў.

§ 63. Прыметнікі з мяккай асновай ва ўскосных склонах у адзіночным ліку маюць наступныя склонавыя канчаткі:

*а)* мужч. і ніякага роду: род. *-яга (летн-яга, асенн-яга)*, дав. *-яму (летн-яму, асенн-яму)*, тв. і мес. *-ім (летн-ім, асенн-ім)*;

*б)* жаноч. роду: род. *-яй (яе) (асенн-яй (-яе), летн-яй (-яе)*, дав. *-яй (асенн-яй, летн-яй)*, він. *-юю (асенн-юю, летн-юю)*, тв. *-яй (-яю) (асенн-яй (-яю), летн-яй (-яю)*, мес. *-яй (асенн-яй, летн-яй)*.

Заўвага 1. Прозвішчы з суфіксамі *-оў, -аў, -ёў, -ін, -ын* змяняюцца ў склонах так, як кароткія прыметнікі: *Крайцоў — Крайцовым, Варашылаў — Варашылавым, Селязнёў — Селязнёвым, Васільеў — Васільевым, Дарвін — Дарвіным, Мічурын — Мічурыным*.

Заўвага 2. Падобныя-ж геаграфічныя назвы ў творным склоне будуць мець канчатак *-ам: пад Барысавам, за горадам Калінінам, пад Тіхвінам* і інш.

§ 64. У прыметніках падвойнае *нн* пішацца:

*а)* калі прыметнік утвараецца пры дапамозе суфікса *-енн, -энн: здаровы — здара-*

*венны, пісьмо — пісьменны, страх — страшэнны;*

*б)* калі прыметнік утвараецца пры дапамозе суфікса *-н-* ад слова, корань якога канчаецца на *-н: камень — каменны, машына — машынны, чыгун — чыгунны.*

Заўвага. У прыметніках з суфіксамі *-ін, -ын, -ан, -ян* пішацца адно *н: гусіны, курыны, бляшаны, гліняны.* Выключэнне: *старанны.*

**§ 65**. Складаныя прыметнікі, якія азначаюць адценні колераў, пішуцца ў адно слова: *цёмназялёны, светлачырвоны, чорнабуры.*

**§ 66**. Злітна пішуцца і такія складаныя прыметнікі, у якіх адно слова служыць для азначэння ці ўдакладнення другога: *сталеліцейны, старажытнарускі, светаадчувальны.*

**§ 67**. Калі-ж словы, якія ўтвараюць складаны прыметнік, выступаюць у ім як граматычна аднародныя паняцці, тады яны пішуцца праз злучок. У гэтым выпадку між такімі словамі без парушэння сэнсу можна ўставіць злучнік *і: палітыка-эканамічны* (палітычны і эканамічны), *гандлёва-прамысловы* (гандлёвы і прамысловы), *гісторыка-філалагічны* (гістарычны і філалагічны), *дыялектыка-матэрыялістычны* (дыялектычны і матэрыялістычны).

## Правапіс лічэбнікаў

**§ 68**. Лічэбнікі *паўтара, паўтраця* (муж. і ніякага р.) *і паўтары, паўтраці* (жан. р.) у склонах не змяняюцца.

**§ 69**. У простых лічэбніках: *пяць, дзевяць, дзесяць,* а таксама ў складаных, другая частка якіх канчаецца на *-ццаць* або *-дзесят,* у творным склоне падвойваецца апошні зычны: *пяць — пяццю, адзінаццаць — адзінаццаццю, восемдзесят — васьмюдзесяццю, пяцьдзесят — пяццюдзесяццю.*

З а ў в а г а. У лічэбніку *восем* ва ўсіх склонах, апрача назоўнага і вінавальнага, пасля *с* пішацца мяккі знак: *васьмі, васьмю.* Мяккі знак пасля *с* ва ўсіх склонах пішацца ў парадкавым лічэбніку *восьмы* і ў зборным *васьмёра,* а таксама ў словах: *васьмёрка, васьмярык, васьмушка, асьміна.*

**§ 70**. Лічэбнікі *дзвесце, трыста, чатырыста, пяцьсот* і г. д. пры скланенні змяняюць абедзве часткі: *дзвесце — двухсот.*

**§ 71**. Лічэбнік *дзевяноста* ва ўсіх склонах мае толькі адну форму; лічэбнікі: *сорак* і *сто* — дзве формы: у наз. і він. *сорак, сто,* а ў астатніх склонах — *сарака, ста.*

**§ 72**. Калі састаўны колькасны лічэбнік складаецца толькі з дзесяткаў і адзінак, тады абодва словы падлягаюць зменам у склонах: *трыццаць восем, трыццаці васьмі* і г. д.

Састаўныя колькасныя лічэбнікі, якія складаюцца з трох, чатырох і больш слоў-лікаў, могуць змяняцца двыяка:

*а)* скланяюцца ўсе словы: *тысяча дзевяцьсот сорак сем — тысячы дзевяцісот сарака сямі;*

*б)* скланяюцца толькі два лічэбнікі — дзесяткі і адзінкі: *тысяча дзевяцьсот семдзесят пяць — тысяча дзевяцьсот сямідзесяці пяці.*

**§ 73.** У састаўных парадкавых лічэбніках пры скланенні змяняецца толькі апошняе слова: *трыста дваццаць восьмы — трыста дваццаць восьмага.*

### Правапіс займеннікаў

**§ 74.** Ёсць два падобныя займеннікі: *сам* і *са́мы.* Каб не блытаць канчаткі гэтых займеннікаў, трэба памятаць, што ў займенніку *сам* ва ўскосных склонах націск пераходзіць на канчатак *(само́га)* і ў творным склоне адзіночнага ліку пішацца *-ім,* множнага — *імі: самім, самімі.* Наадварот, займеннік *са́мы* захоўвае націск на корані і ў творным склоне набывае канчаткі *-ым, -ымі: са́мым, са́мымі.*

**§ 75.** *Не* з займеннікамі пішацца пад націскам: *не́хта, не́шта, не́кага, не́чага, не́кім, не́чым,* але і *некато́ры;* не пад націскам пішацца *ні: ніхто́, нішто́, ніко́га, нічо́га, ніко́му, нічо́му, нікі́м, нічы́м.*

## Правапіс дзеясловаў

§ 76. Дзеясловы I спражэння маюць наступныя асабовыя канчаткі: *-у (-ю), -еш (-эш, -аш), -е (-э, -а); -ем (-эм, -ам), -еце (-эце, -аце), -уць (-юць)*; II спражэння: *-у (-ю), -ыш (-іш), -ыць (-іць), -ым (-ім), -ыце (-іце), -аць (-яць).*

Заўвага 1. Канчаткі *-эш, -э, -эм, -эце* ў дзеясловах I спражэння заўсёды націскныя. Не пад націскам гэтыя канчаткі адпаведна пераходзяць у *-аш, -а, -ам, -аце: цячэ́ — вы́цеча, бярэ́це — вы́бераце.*

Заўвага 2. Варта запамятаць формы трэцяй асобы мн. л. некаторых дзеясловаў: *ходзяць, возяць, гоняць, бягуць, ядуць, іржуць.*

§ 77. У дзеясловах загаднага ладу *ь* пішацца:

*а)* у II асобе адз. л., калі дзеяслоў мае чыстую мяккую аснову: *кінь, глянь, стань, сядзь,* а таксама ў II асобе мн. ліку перад *-це* ад гэтых-жа асноў: *кіньце, гляньце, станьце, сядзьце;*

*б)* у форме *кіньма, станьма, гляньма, сядзьма* ад дзеясловаў з мяккай асновай.

§ 78. Каб не памыліцца ў напісанні дзеясловаў незакончанага трывання, трэба памятаць наступнае:

*а)* ад дзеясловаў закончанага трывання ўтвараюцца дзеясловы незакончанага трывання пры дапамозе суфікса *-ва: зачыта́ць — зачы́т-ва-ць, вы́меняць — вымéнь-ва-ць, вы-*

*расціць — вырóшч-ва-ць, вы́насіць—выно́ш-ва-ць, вы́капаць — выко́п-ва-ць, накасіць — нако́ш-ва-ць;*

*б)* у тым выпадку, калі аснова дзеяслова закончанага трывання мае на канцы збег зычных *сл, тр, ўн* або *м*, то незакончанае трыванне ўтвараецца пры дапамозе суфікса *-іва (-ыва)*, пры чым *м, п* перад *-іва* чаргуецца з *мл, пл: закрэ́сл-іць — закрэ́сл-іва-ць, вы́ветр-ыць—вывéтр-ыва-ць, запэ́ўн-іць — запэ́ўн-іва-ць, вы́карм-іць—выко́рмл-іва-ць;*

Заўвага. Пры ўтварэнні дзеясловаў незакончанага трывання тыпу: *выко́шваць, выстóйваць, вырóшчваць, выпро́стваць, выко́рмліваць* націск з прыстаўкі пераходзіць на карэнны галосны, пры гэтым пад націскам аднаўляецца этымалагічнае *о*.

*в)* ад назоўнікаў і прыметнікаў дзеясловы незакончанага трывання ўтвараюцца з дапамогай суф. *-ава, -ява: голас — галасаваць, каманда — камандаваць, піла — пілаваць, хваля — хваляваць, дзень — дняваць;*

*г)* калі дзеяслоў закончанага трывання мае суфікс *-ава*, то незакончанае трыванне ўтвараецца з дапамогай суфікса *-оўва -ёўва: адбудаваць — адбудоўваць, абсталяваць — абсталёўваць.*

## Правапіс дзеяпрыметнікаў

§ 79. У дзеяпрыметніках залежнага стану прошлага часу перад *н* пішацца *я* толькі тады, калі гэты дзеяпрыметнік утвораны ад

інфінітыва з ненаціскным канчаткам *-яць: развéяць — развéяны, ла́яць — вы́лаяны, вы́смеяць — вы́смеяны.*

Калі-ж у інфінітыве канчатак *-яць* знаходзіцца пад націскам, тады ў дзеяпрыметніку залежнага стану прошлага часу перад *н* пішацца *е: аднаўля́ць — адно́ўлены, спыня́ць — спы́нены, заяўля́ць — зая́ўлены.*

### Правапіс дзеяпрыслоўяў

**§ 80**. Дзеяпрыслоўі цяперашняга часу, утвораныя ад дзеясловаў другога спражэння з мяккай асновай, заўсёды маюць суфікс *-ячы: кормяць — кормячы* (а не *кормечы*), *месяць—месячы* (а не *месечы*), *галосяць— галосячы* (а не *галосечы*).

### Правапіс прыслоўяў

**§ 81**. Каб адрозніць прыслоўе ад назоўніка, прыметніка, лічэбніка ці займенніка з прыназоўнікам, трэба памятаць наступнае:

*а)* назоўнікі могуць мець пры сабе дапасаваныя прыметнікі, лічэбнікі, займеннікі або залежныя ад іх назоўнікі ў родным склоне. Пры прыслоўі такіх паясняльных слоў не бывае. Параўнай: *з пачатку года,* але: *спачатку не зразумеў;*

*б)* некаторыя прыметнікі і лічэбнікі, стаўшы паміж назоўнікам і прыназоўнікам, могуць нагадваць сабою прыслоўі. Каб ад-

розніць іх, трэба паспрабаваць апусціць слова. Калі пасля гэтага сэнс у сказе не парушаецца, значыць мы маем справу з прыметнікам ці лічэбнікам. Параўнай: *заняткі праводзяцца па (новаму) раскладу*, але: *усё выглядае па-новаму; рота размясцілася ў (трох) палатках*, але: *на вахту сталі ўтрох*.

**§ 82**. Прыслоўі, утвораныя ад давальнага склону прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў, з прыстаўкай *па-* пішуцца праз злучок: *па-бальшэвіцку, па-стаханаўску, па-мойму, па-першае, па-трэцяе*.

**§ 83**. Варта запамятаць правапіс прыслоўяў: *паасóбку, падóўгу, патрóшку, паблізу, папрóсту, нізавóшта* (у сэнсе: ні пры якіх умовах).

**§ 84**. Складаныя прыслоўі тыпу: *ледзь-ледзь, чуць-чуць, раз-по-раз, калі-ні-калі, дзе-ні-дзе, час-ад-часу, туды-сюды, сям-там, сяды-тады* — пішуцца праз злучок.

## Правапіс прыназоўнікаў

**§ 85**. Прыназоўнікі пішуцца асобна ад слоў, перад якімі яны стаяць.

**§ 86**. Прыназоўнік *к, аб*, стаўшы перад словам *мне*, а прыназоўнік *перад, пад, над*, стаўшы перад словам *мною*, пішуцца з дадатковым *а: ка мне, аба мне, перада мной, пада мною, нада мною*.

**§ 87**. Прыназоўнік *з* у становішчы перад

збегам зычных у пачатку наступнага слова (асабліва перад *м, з, с, ж, ш*) пераходзіць у *са: са мною, са сказа, са страху, са жняяркаю, са шклянкай.*

§ 88. Прыназоўнік *у* пераходзіць у *ва* перад словамі, якія пачынаюцца з *у: ва універсітэце, ва ўрадавай камісіі, ва ўладзе, ва ўспамінах.*

§ 89. Складаныя прыназоўнікі *з-за, з-пад, па-за, па-над* пішуцца праз злучок.

## Правапіс часціц

§ 90. Часціцы *-б (-бы), -ж (-жа), -небудзь* з папярэднім словам пішуцца праз злучок. Пры гэтым *-б, -ж* пішуцца пасля галосных, *-бы, -жа*—пасля зычных і *-ў, -й: які-б, чаму-ж, прынёс-бы, прачытаў-бы, казаў-жа, хто-небудзь.*

Заўвага. Калі слова адначасова ўжываецца з некалькімі часціцамі, тады часціцы паміж сабой злучком не звязваюцца: а *ўсё-ж такі; скажы, куды-ж бы мне пайсці; як-жа ж гэта здарылася?*

§ 91. Часціца *абы* пішацца праз злучок з тым словам, перад якім яна стаіць: *абы-як, абы-хто.*

§ 92. Часціца *ні* пішацца разам:

*а)* калі слова без *ні* не ўжываецца: *нікчэмны, нікудышны, нішчымны;*

*б)* з займеннікамі, калі перад імі няма прыназоўнікаў: *ніхто, нікога, нічым,* але: *ні з кім, ні ў чым;*

*в)* з наступнымі прыслоўямі: *нідзе, нікуды, ніадкуль, ніяк, ніколі, нічуць, ніпачым, нізашто, ніпрычым, ніпрашто, ніколькі.*

З усімі іншымі часцінамі мовы часціца *ні* пішацца раздзельна.

Заўвага. Часціца *ні* пішацца раздзельна ў асобных бездзеяслоўных выразах тыпу: *ні рыба ні мяса, ні тое ні сёе, ні свет ні зара, ні жывы ні мёртвы, ні з месца.*

§ 93. Часціца *не* пішацца разам:

*а)* калі слова без *не* не ўжываецца: *неўзабаве, ненавідзець, нядоімка, няўхільна, недарэчны, непахісны, неабходна;*

*б)* з назоўнікамі, прыметнікамі і прыслоўямі, якія хоць і ўжываюцца асобна, але з часціцай *не* утвараюць новае паняцце: *няшчасце* (бяда), *няпраўда* (хлусня), *нялёгка* (цяжка);

*в)* з назоўнікамі, прыметнікамі і прыслоўямі пры наяўнасці паясняльных слоў *вельмі, зусім, амаль, часткова, у вышэйшай ступені: ён вельмі няветлівы, зусім няздатны, часткова непрыгодны;*

*г)* з поўнымі дзеяпрыметнікамі, калі апошнія не маюць пры сабе паясняльных слоў: *неапаўшае лісце, непрыбранае поле;*

*д)* з наступнымі неазначальнымі займеннікамі і прыслоўямі: *не́хта, не́шта, не́як, не́адкуль, не́куды, не́калькі, не́дзе, не́кага, не́каму, не́чага, не́чаму, не́кім, не́чым;*

*е)* з прыслоўем *нехаця* і прыназоўнікам *нягледзячы на.*

**§ 94.** Часціца *не* пішацца асобна:

*а)* ад назоўнікаў, прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і прыслоўяў, калі за гэтымі словамі ідзе супрацьстаўленне або яго лёгка знайсці: *не праўда, а хлусня; перад намі была не высокая гара, а толькі ўзгорак; нам было не душна, а холадна; работа не скончаная, а толькі пачатая;*

*б)* калі пры назоўніку, прыметніку ці займенніку з адмоўем *не* стаіць паясняльнае слова, выражанае адмоўным займеннікам ці прыслоўем:*адзін брат нічым не падобны да другога; глеба стала ніяк не цвярдзейшай;*

*в)* ад прыслоўяў, якія іграюць ролю выказніка: *не трэба, не шкада, не варта, не пара* і інш.;

*г) ад* дзеясловаў і дзеепрыслоўяў: *не хадзіў, не насіў, не хапае (рукою за што-небудзь),* але: *нехапае (да сотні нехапае аднаго рубля);*

*д)* ад кароткіх дзеепрыметнікаў: *сенажаць не ўбрана; ворыва не скончана.*

**§ 95.** *Не* з назоўнікамі ў рэдкіх выпадках можа пісацца праз злучок:

*а)* калі злучэнне *не* з назоўнікамі выражае толькі адмоўнае і разам з тым няпэўнае паняцце: *на будаўніцтва прывезлі розны матэрыял: камень і не-камень; не-дэлегаты*

*канферэнцыі карыстаюцца дарадчым галасам; запіскі не-дыпламата;*

*б)* калі часціца *не* становіцца перад уласным іменем і з ім утварае адзінае паняцце: *вайна ахапіла народы Еўропы і не-Еўропы.*

Заўвага. Праз злучок *не* пішацца і ў філасофскім тэрміне: *не-я.*

---

## *АЛФАВІТ*

*Аа, Бб, Вв, Гг, Дд, (Дж дж, Дз дз), Ее, Ёё, Жж, Зз, Іі, Йй, Кк, Лл, Мм, Нн, Оо, Пп, Рр, Сс, Тт, Уу, Ўў, Фф, Хх, Цц, Чч, Шш, ы, ь, Ээ, Юю, Яя.*

Заўвага. Апостраф (') літарай не з'яўляецца і на размяшчэнне слоў у слоўніку не робіць уплыву.

## *ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ*

| | |
|---|---|
| *ав.* | — авіяцыйны тэрмін |
| *адз.* | — адзіночны лік |
| *анат.* | — анатамічны тэрмін |
| *архіт.* | — архітэктурны тэрмін |
| *бат.* | — батанічны тэрмін |
| *біял.* | — біялагічны тэрмін |
| *гіст.* | — гістарычны тэрмін |
| *гл.* | — глядзі |
| *грам.* | — граматычны тэрмін |
| *дав.* | — давальны склон |
| *дыпл.* | — дыпламатычны тэрмін |
| *дзеяпр.* | — дзеяпрыметнік |
| *дзеяпрсл.* | — дзеяпрыслоўе |
| *ж. р.* | — жаночы род |
| *заал.* | — заалагічны тэрмін |
| *загадн.* | — загадны лад |
| *зак.* | — закончанае трыванне |
| *зборн.* | — зборны лік |
| *злуч.* | — злучнік |
| *лінгв.* | — лінгвістычны тэрмін |

*літ.* — літаратурны тэрмін
*мануф.* — мануфактура
*мат.* — матэматычны тэрмін
*мед.* — медыцынскі тэрмін
*мес.* — месны склон
*м. і ж.* — мужчынскі і жаночы род
*мін.* — мінералагічны тэрмін
*мн.* — множны лік
*мар.* — марскі тэрмін
*м. р.* — мужчынскі род
*муз.* — музычны тэрмін
*нав.* — навуковы тэрмін
*наз.* — назоўнік
*незак.* — незакончанае трыванне
*н. р.* — ніякі род
*нязм.* — нязменная форма
*паліт.* — палітычны тэрмін
*памянш.* — памяншальная форма
*педаг.* — педагагічны тэрмін
*прсл.* — прыслоўе
*прым.* — прыметнік
*прыназ.* — прыназоўнік
*род.* — родны склон
*с.-г.* — сельскагаспадарчы тэрмін
*спарт.* — спартыўны тэрмін
*тв.* — творны склон
*тып.* — тыпаграфскі тэрмін
*тэх.* — тэхнічны тэрмін
*фіз.* — фізічны тэрмін
*фізл.* — фізіялагічны тэрмін
*філас.* — філасофскі тэрмін
*хім.* — хімічны тэрмін
*шахм.* — шахматны тэрмін
*эк.* — эканамічны тэрмін
*юр.* — юрыдычны тэрмін
*II мн.* — другая асоба множ. ліку
*III адз.* — трэцяя асоба адзін. ліку
*III мн.* — трэцяя асоба множ. ліку.

# А

аа́зіс, *род.* -са, *мес.* -се
ааліт *(мін.)*, *род.* -та, *(пры колькасці)* -ту, *мес.* -це
аба́бак, *род.* -бка
абабе́гаць, абабе́гаю
абабе́гчы, абабягу́, абабяжы́ш; *III мн.* абабягу́ць
абабіць, абаб'ю; *III мн.* абаб'юць
абавя́зак, *род.* -зку
абавязко́ва, *прсл.*
абагаці́ць, абагачу́, абагаціш; *незак.* абагача́ць, абагача́ю
абагульне́нне, *мес.* -нні
абадра́ць, абдзяру́, абдзярэ́ш, абдзярэ́
абажу́р, *род.* -ра, *мес.* -ры
абазва́ць, абзаву́, абзаве́ш, абзаве́
абаліцыянізм, *род.* -ма
абамле́ць
абанеме́нт, *род.* -та, *мес.* -це
абане́нт, *род.* -та, *мес.* -це
абаніраваны
абанкро́ціцца, абанкро́чуся; *III мн.* абанкро́цяцца
аба́пал, *прсл.*
абапе́рціся, абапру́ся
абара́нак, *род.* -нка
абарда́ж, *род.* -жу, *мес.* -жы
абаро́на
абароназдо́льнасць, *тв.* -сцю
абаро́нны
абаро́нца
абарыге́н, *род.* -на, *мес.* -не
аба́т, *род.* -та, *мес.* -це
аба́цтва
абва́жваць
абваліць, абвалю́, абва́ліш; *III мн.* абва́ляць
абвастры́ць, абво́страны
абве́зці, абвязу́, абвязе́ш, абвязе́
абве́сіць, абве́шу; *III мн.* абве́сяць

абвéстка, *дав.*, *мес.* -стцы
абвéсці, абвядý
абвéшаць, абвéшаю
абвінавáціць, абвінавáчу; *III мн.* абвінавáцяць
абвінавáчваць
абвýгліванне, *мес.* -нні
абвянчáны
абвяржэнне, *мес.* -нні
абвясціць, абвяшчý, абвéсціш; *III мн.* абвéсцяць
абвяшчáць, абвяшчáю
абгавáрваць
абгаварыць, абгаварý, абгавóрыш; *III мн.* абгавóраць
абгарадзіць, абгараджý, абгарóдзіш; *III мн.* абгарóдзяць
абгарнýць, абгарнý, абгóрнеш
абгарóджваць
абгарэць, абгарý, абгарыш; *III мн.* абгарáць
абгóртваць, абгóртваю
абгóртка
абгрызці
абгýльваць
абдáць, абдáм, абдасí, абдáсць; *III мн.* абдадýць
абдзірáць, абдзірáю
абдзяліць, абдзялю, абдзéліш; *III мн.* абдзéляць
абдýмваць
абéд, *род.* -ду, *мес.* -дзе
абéдзве
абéдзенны
аб'éдзены
аб'éдкі, *род.* -каў; *адз. няма*
аб'éздзіць, аб'éзджу; *III мн.* аб'éздзяць
аб'éздчык
аб'éкт, *род.* -та, *мес.* -це
аб'ектыў, *род.* -ва
абеліск, *род.* -ка
аберацыйны
абéруч, ***прсл.***
аб'éсці, аб'éм, аб'ясí, аб'éсць; *III мн.* аб'ядýць
аб'éсціся, *III адз.* аб'éсца, *III мн.* аб'ядýцца
аб'éхаць, аб'éду; *незак.* аб'язджáць
аб'ём, *род.* -му, *мес.* -ме
абзадáчыць, *III мн.* абзадáчаць
абзáц, *род.* -ца, *мес.* -цы
абзывáць, *зак.* абазвáць
абібóцтва
абівáць
абісінец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
абітурыéнт, *род.* -та, *мес.* -це
абканапáціць, абканапáчу; *III мн.* абканапáцяць

абка́паць, абка́паю; *незак.* абка́пваць, абка́пваю
абкапа́ць, абкапа́ю; *незак.* абко́пваць, абко́пваю
абкасі́ць, абкашу́, абко́сіш; *III мн.* абко́сяць
абкла́сці, абкладу́; *незак.* абкла́даць *і* абкла́дваць
абкле́іць, абкле́ю, абкле́іш, абкле́іць; *III мн.* абкле́яць
абкле́йваць
абклява́ць, абклюю́
абко́м (абласны́ камітэт), *род.* -ма
абко́шваць
абкра́сці *і* абакра́сці
абкруці́ць, абкручу́, абкру́ціш; *III мн.* абкру́цяць
абкру́чваць
абкрыва́віцца, абкрыва́ўлюся; *III мн.* абкрыва́вяцца
абку́рванне, *мес.* -нні
абласны́, *але*: во́бласць
абла́яць, абла́ю, абла́еш; *III мн.* абла́юць
аблвыканко́м (абласны́ выкана́ўчы камітэ́т), *род.* -ма
абле́гчы, абля́гу, абля́жаш, абля́жа; *III мн.* абля́гуць
абледзяне́лы
абле́таваць
аблiга́цыя, *род. мн.* -цый
аблі́чча, *мес.* -ччы
абліч́ыць, аблічу́, аблі́чыш; *III мн.* аблі́чаць
абло́га, *дав.*, *мес.* -зе
абло́маўшчына
аблюбава́ць
аблягáць, аблягáю
аблямава́ць, аблямýю
аблямо́ўка, *дав.*, *мес.*-цы; *род. мн.* -вак
абмака́ць, абмака́ю; *зак.* абмо́кнуць
абмало́т, *род.* -ту, *мес.* -це
абмачы́ць, *III мн.* абмо́чаць
абмежава́насць, *тв.* -сцю
абмежава́ць, абмяжýю; *незак.* абмяжо́ўваць
абме́р, *род.* -ру, *мес.* -ры
абме́раць, *незак.* абме́рваць *і* абмяра́ць
абмеркава́нне, *мес.* -нні
абме́рці, абамру́
абміра́ць, абміра́ю
абмундзірава́нне, *мес.* -нні
абмыва́цца, *зак.* абмы́цца
абмяра́ць *і* абме́рваць
абмярза́ць
абмяртве́лы
абнадзе́ены
абнадзе́іць, *III мн.* абнадзе́яць

абне́сці, абнясу́
абно́сіць, абно́шу
абню́хваць, абню́хваю
абняду́жаць *(самому)*, абняду́жаю
абняду́жыць *(каго-небудзь)*, абняду́жу
абнясла́вець *(самому)*, абнясла́вею, абнясла́вееш
абнясла́віць *(каго-небудзь)*, абнясла́ўлю, абнясла́віш
абогатварэ́нне, *мес.* -нні
або́два, *род.* або́двух, *тв.* або́двума
або́е, *род.* -абаíх
або́і, *род.* або́яў; *адз. няма*
абпалíць, абпалю́, абпа́ліш; *III мн.* абпа́ляць
абра́д, *род.* -ду, *мес.* -дзе
абра́за
абра́зліва, *прсл.*
абра́ннік
абраста́ць, *зак.* абрасці́, абрасту́
абро́ць, *род.* -ці, *тв.* -ццю
абру́с, *род.* -са, *мес.* -се
абру́ч, *род.* -ча́, *мес.* -чы́
абрыкацíн, *род.* -ну, *мес.* -не
абрыко́с, *род.* -са, *(у выпадку ўжывання ў сэнсе матэрыялу)* -су, *мес.* -се
абры́с, *род.* -су, *мес.* -се
абрысава́ны *і* абрысо́ваны
абрэвіяту́ра, *мес.* -ры
абрэ́к
абсалюты́зм
абсалюты́сцкі
абсентэíзм
абсервато́рыя, *род. мн.* -рый
абсе́яць, абсе́ю, абсе́еш, абсе́е; *III мн.* абсе́юць
абскака́ць, абскачу́, абска́чаш, абска́ча
абска́рджаны
абска́рдзіць, *незак.* абска́рджваць
абскрэ́бці і абскрабці́
абску́бці і абскубці́
абскуранты́зм
абсмалíць, абсмалю́, абсма́ліш; *III мн.* абсма́ляць
абсмя́яць, абсмяю́, абсмяе́ш, абсмяе́; *III мн.* абсмяю́ць
абста́віны, *род.* -він; *адз. няма*
абсталява́нне, *мес.* -нні
абсталява́ны
абстрагава́ць, абстрагу́ю
абстраля́ны
абструга́ць, абструга́ю *і* абстружу́; *незак.* абстру́гваць

абстру́гванне, *мес.* -нні
абструкцыяні́сцкі
абсцы́са
абсцэ́с, *род.* -су, *мес.* -се
абсы́паць, абсы́плю, абсы́плеш; *III мн.* абсы́плюць; *незак.* абсыпа́ць
абсява́ць *і* абсе́йваць
абтапта́ны *і* абто́птаны
абтапта́ць, абтапчу́, абто́пчаш, абто́пча
абто́птваць
абто́чваць
абува́ць, абува́ю
абу́джаны
абудзі́ць, абуджу́, абу́дзіш; *III мн.* абу́дзяць; *незак.* абу́джваць
абумо́віць, абумо́ўлю, абумо́віш; *III мн.* абумо́вяць
абу́так, *род.* -тку
абу́ць, абу́ю
абуя́ць
абха́зскі
абхо́д, *род.* -ду, *мес.* -дзе
абца́с (*не* абса́ц!), *род.* -са, *мес.* -се
абцугі́, *род.* -го́ў; *адз. няма*
абцяжа́раны
абы-дзе́
абы-калі́
абы-куды́
абымшы́ць, абымшу́; *III мн.* абымша́ць, абымшэ́ць
абыхо́длівы
абы-хто́, *род.* абы-каго́
абы-чы́й, *род.* абы-чый-го́; *мн.* абы-чые́
абы-што́, *род.* абы-чаго́
абыя́кава, *прсл.*
абы-які́
абюракра́ціцца
аб'я́ва
аб'ядна́нне, *мн.* -нні
аб'ядзе́нне, *мес.* -нні
абязбо́льваць
абязве́чыць, *III мн.* абязве́чаць
абяздо́лець (*самому*), абяздо́лею; *незак.* абяздо́льваць
абяздо́ліць (*каго-небудзь*), абяздо́лю; *незак.* абяздо́льваць
аб'язджа́ць
абяззбро́іць, абяззбро́ю; *III мн.* абяззбро́яць
абязлі́чка, *дав., мес.* -чцы
абязлю́дзець
абяскро́віць, абяскро́ўлю; *незак.* абяскро́ўліваць
абяскро́ўлены
абяссі́лены
абяссі́лець (*зрабіцца слабым*), абяссі́лею, абяссі́лееш; *незак.* абяссі́льваць
абяссі́ліць (*зрабіць слабым каго-небудзь*) абяссі́лю, абяссі́ліш, абяссі́ліць; *III мн.*

абяссіляць; *незак.* абяссільваць
абяссмéрціць, *незак.* абяссмéрчваць
абяссмéрчаны
абясшкóдзіць, *III мн.* абясшкóдзяць, *незак.* абясшкóджваць
абяцáнне, *мес.* -нні
авадзéнь, *род.* -дня́, *мес.* -дні
авáл, *род.* -ла
авалóдаць, авалóдаю
авалóдванне, *мес.* -нні
авалóдваць, авалóдваю
авáльны
авангáрд, *род.* -да, *мес.* -дзе
аванзáл
аванпóст, *род.* -та, *мес.* -це
авáнс, *род.* -су, *мес.* -се
авансавáць
авансцэ́на
авантуры́сцкі
авары́йны
авéчка, *дав., мес.* -чцы; *род. мн.* -чак
авёс, *род.* аўсá, *мес.* аўсé; *мн.* аўсы́; аўся́ны
авіéтка, *дав., мес.* -тцы
авіяатрáд
авіябáза
авіябóмба
авіядэсáнт, *род.* -та, *мес.* -це
авіязавóд
авіязды́мак, *род.* -мка, *мес.* -мку; *род. мн.* -мкаў
авіязды́мка, *дав., мес.* -мцы; *род. мн.* -мак
авіямáтка, *дав., мес.* -тцы
авіямая́к, *род.* -кá
авіянóсец, *мес.* -цы
авіяпрамыслóвасць, *тв.* -сцю
авія́тар, *мес.* -ру
авія́тыка, *дав., мес.* -цы
авіяцы́йны
авія́цыя
авуля́цыя
агалашэ́нне, *мес.* -нні
агарадзíць, агараджý, агарóдзіш; *III мн.* агарóдзяць
агáрак, *род.* -рка
агарнýць, агарнý, агóрнеш; *незак.* агóртваць
агарóджа, *род., дав., мес.* -джы
агарóджванне, *мес.* -нні
агéнт, *род.* -та, *мес.* -це
агéнцтва
агéньчык, *род.* -ка
агíдна, *прсл.*
агітавáць, агітýю
агіткампáнія, *род. мн.* -ній
агітпрóп(агітацы́йна-прапаганды́сцкі аддзéл), *род.* -па
агіяграфія

агламера́т, *род.* -ту, *мес.* -це
агле́дзець, агле́джу, агле́дзіш; *III мн.* агле́дзяць; *незак.* аглядáць
агло́бля
аглютынаты́ўны
аглютына́цыя
агля́д, *род.* -ду
агляда́цца *і* агля́двацца
агляну́цца
агнасты́цызм
агнямёт, *род.* -та, *мес.* -це
агнястрэ́льны
аго́нь, *род.* -ню́, *мес.* -ні́; у агні́
аго́ртваць, аго́ртваю
агракýрсы
аграмі́німум, *род.* -муму
агранамі́чны
аграно́м, *мес.* -ме
аграно́мія
агра́рны
агрызну́цца
агрыкульту́ра, *мес.* -ры
агрэга́т, *род.* -та, *мес.* -це
агрэ́сар, *род.* -ра, *мес.* -ру
агрэсі́ўны
агрэ́сія
агрэ́ст, *род.* -ту, *мес.* -це
агульнаадукацы́йны
агульнавайско́вы
агульнавядо́мы
агульнадзяржа́ўны
агульнапрызна́ны
агульнарэспубліка́нскі
агу́льнасць, *тв.* -сцю
агульначалаве́чы
агуро́к, *род.* -рка́
агурэ́чны
адагрэ́ць
ада́жыё, *нязм.*
адамкну́ты *і* адамкнёны
адамкну́ць, *незак.* адмыка́ць
адамсі́т, *род.* -та, *(пры колькасці)* -ту
адантагагі́чны
адбо́й, *род.* адбо́ю, *мес.* адбо́і
адбудо́ўваць, адбудо́ўваю; *зак.* адбудава́ць, адбуду́ю
адва́га, *мес.* -зе
адвака́цкі
адваява́ць, адваю́ю; *незак.* адваёўваць, адваёўваю
адве́зці *(ад* вазі́ць), адвязу́
адве́сці (*ад* вадзі́ць), адвяду́
адво́д, *род.* -ду, *мес.* -дзе
адво́дзіць, адво́джу; *III мн.* адво́дзяць
адво́зіць, адво́жу; *III мн.* адво́зяць
адво́льны
адвячо́ркам, *прсл.*
адгава́рвацца
адгало́сак, *род.* -ску
адго́н, *род.* -ну

адгрэ́баць, адгрэ́баю *і* адграба́ць, адграба́ю
аддалёнасць, *тв.* -сцю
аддзіра́ць
аддзяжу́рыць
аддзя́ка, *дав., мес.* -цы
аддзя́каваць (*не* аддзяк-ваць!)
ад'е́зд, *род.* -ду
ад'е́сціся, ад'е́мся, ад'ясіся, ад'е́сца, ад'ядзі́мся (ад'ямо́ся), ад'ясце́ся, ад'яду́цца
адзаві́зм
адзаві́сцкі
адзвіне́ць, адзвіню́
адзе́нне, *мес.* -нні
адзеравяне́ць
адзёр, *род.* адзёру, *мес.* адзёры
адзінаду́шна, *прсл.*
адзінажды
адзінанача́лле, *мес.* -ллі
адзіна́ццаць, *тв.* -ццаццю
адзі́н-на-адзі́н, *прсл.*
адзіно́та
адзіно́цтва
адзіно́чка, *дав., мес.* -чцы
адзна́ка, *дав., мес.* -цы
адзна́чыць, *III мн.* адзна́чаць
адзю́льтэр
адзява́ць, адзява́ю
адка́з, *род.* -зу
адка́зчык
адкамандзіро́ўваць, адкамандзіро́ўваю
адка́тчык
адкі́даць, *незак.* адкіда́ць *і* адкі́дваць
адкіпе́ць, *III мн.* адкіпя́ць, *незак.* адкі́пваць
адко́л, *род.* -лу
адку́ль, адкуль-не́будзь
адкупі́цца, адкуплю́ся, адку́пішся; *III мн.* адку́пяцца
адлама́ць, адламлю́, адло́міш; *III мн.* адло́мяць; *незак.* адло́мліваць
адле́гласць, *тв.* -сцю
адле́гчы, адля́гу, адля́жаш, адля́жа; *III мн.* адля́гуць; *незак.* адляга́ць
адлёт, *род.* -ту, *мес.* -це
адлётаць (*скончыць лётаць*)
адлі́га, *дав., мес.* -зе
адлята́ць (*пачаць адлёт*)
адмака́ць, адмака́ю
адмаро́зіць, *III мн.* адмаро́зяць
адме́нны
адме́рці, адамру́
адме́сці, адмяту́, адмяце́ш
адміністрава́нне, *мес.* -нні
адміністрацы́йны
адміралце́йства
адміра́ць, адміра́ю
адмысло́вы

адмяжо́ўвацца
адна́, *род.* -но́й (-нае́), *а не* аднэ́й!
аднаа́ктавы
аднаасо́бны
аднаа́тамны
аднабако́васць, *тв.* -сцю
аднабо́кі
аднабо́ртны
аднавале́нтны
аднаве́р'е, *мес.* -р'і
аднаго́рбы
аднагу́чны
аднадо́мны
аднадзё́нны
адна́к
аднакаляро́вы
аднакле́ткавы
аднале́тні
адналя́мпавы
аднапаўярхо́вы
аднапляме́ннік
аднаразо́вы
аднаро́днасць, *тв.* -сцю
аднаскладо́вы
аднаспа́льны
аднаста́йнасць, *тв.* -сцю
аднаство́льны
адно́стопны
аднастру́нны
аднато́мнік
аднатыпо́васць, *тв.* -сцю
аднацыліндро́вы
аднача́со́ва, *прсл.*
аднаўле́н, *род.* -на, *мес.* -не
адне́квацца
адно́йчы
адно́лькава, *прсл.*
адо́львацць, *зак.* адо́лець
адпаве́дна (*з дав. склон.:* адпаведна пастанове)
адпаро́ць, адпару́, адпо́раш; *незак.* адпо́рваць
адпачыва́ць, адпачыва́ю; *зак.* адпачы́ць, адпачну́
адпачы́нак, *род.* -нку
адпіло́ўваць, адпіло́ўваю; *зак.* адпілава́ць, адпілу́ю
адпла́чваць
адпо́мсціць, адпо́мшчу; *III мн.* адпо́мсцяць; *незак.* адпо́мшчваць
адпрэ́гчы, адпрагу, адпражэ́ш; *III мн.* адпрагу́ць
адпяка́цца, *зак.* адпячы́ся
адрадзі́ць, адраджу́; *III мн.* адро́дзяць
адра́зу, *прсл., але:* ад ра́зу да ра́зу, *наз. з прыназ.*
адрака́цца, адрака́юся; *зак.* адрачы́ся, адраку́ся
адраманатава́ны
адрантве́ць
адрапартава́ць
а́драс, *род.* -су
адрасава́ць
адраса́нт (*хто пасылае*), *мес.* -це

адраса́т (*хто атрымоўвае*), *мес.* -це
адры́на, у адры́не
адрэгулява́ць
адрэдагава́ць
адрэкамендава́ць
адса́джванне, *мес.* -нні
адсе́йванне, *мес.* -нні
адстая́цца, *III мн.* адстая́цца, *незак.* адсто́йвацца
адстрэ́львацца
адсу́тнасць, *тв.* -сцю
адсыса́ць, адсыса́ю; *зак.* адасса́ць, адассу́
адсю́ль, *прсл.*
адсяка́ць, *зак.* адсячы́ і адсе́кчы
адтапы́рыць, *III мн.* адтапы́раць, *незак.* адтапы́рваць
адту́ліна
адту́ль, *прсл.*
адту́льваць
адубе́ць
адука́цыя
адурма́ньваць
адусю́ль, *прсл.*
адхілі́ць, адхілю́, адхі́ліш; *III мн.* адхі́ляць
адхо́н, *род.* -ну
адцадзі́ць, адцаджу́, адцэ́дзіш; *III мн.* адцэ́дзяць
адцвісці́, *незак.* адцвіта́ць
адцэ́нне, *мес.* -нні
адцэ́джваць
адцягну́ць, адцягну́, адця́гнеш; *незак.* адця́гваць
адця́ты
адчува́льнасць, *тв.* -сцю
адчыні́ць, адчыню́, адчы́ніш; *III мн.* адчы́няць; *незак.* адчыня́ць
адшпі́льваць
адшчапе́нец, *мес.* -нцу
адыге́ец, *род.* -ге́йца, *мес.* -ге́йцу
адыё́зны
адыйсці́, адыйду́, ады́йдзеш; адышо́ў, адышла́
адыма́нне, *мес.* -нні
адыхо́дніцтва
адэкало́н, *род.* -ну
адэква́тны
адэно́ід
адэ́пт, *род.* -та, *мес.* -це
ад'ю́нкт, *мес.* -це
ад'юта́нт, *мес.* -це
ад'юта́нцкі
ад'язджа́ць
ае́р, *род.* -ру, *мес.* -ры
ажараб́іцца
ажно́, *злуч.*
ажу́р (*бухг.*), *нязм.*
ажу́р (*тэкстыльны*), *род.* -ру, *мес.* -ры
ажыві́ць, ажыўлю́, ажы́віш; *III мн.* ажы́вяць
ажы́ўленасць, *тв.* -сцю
ажыццяўле́нне, *мес.* -нні
ажы́ць, ажыву́; *незак.* ажыва́ць

ажытáж, *род.* -жу, *мес.* -жы
азадáчанасць, *тв.* -сцю
азакерыт, *род.* -та, (*пры колькасці, пры азначэнні матэрыялу*) -ту
азбéст, *род.* -ту
аздараўлéнчы
азвярэласць, *тв.* -сцю
азеляняць
азімізáцыя
азімка (азімая пшаніца)
áзімут, *род.* -та, *мес.* -це
азіяцкі
азнаёмлены
азнáчаны (*не блытаць з* адзнáчаны!)
азначáць
азнаямлéнне, *мес.* -нні
азóн, *род.* -на, (*пры колькасці*) -ну
азоўстáль
азярóд, *род.* -да, *мес.* -дзе
áйзберг, *род.* -га, *мес.* -гу
акадэмізм
акадэмік-сакратáр
акадэмія, *род. мн.* -мій
акалічнасць, *тв.* -сцю
акамадáцыя
акампанемéнт, *род.* -ту, *мес.* -це
акампаніраваць, акампанірую
акамянéць
аканіцы
áканне, *мес.* -нні
акантавáны *і* акантóваны
акапáцца
акарчанéць
акасцянéнне, *мес.* -нні
акáцыя, *род. мн.* -цый
аквамарын, *род.* -ну
аквáрыум, *род.* -ма
акварэль, *ж. р.*, *тв.* -ллю
акватынта, *мес.* -це
акватыпія
акéнца
акіян, *род.* -на
акіянагрáфія
акіянскі
акліматызавáць, *незак.* акліматызóўваць
акліматызацыйны
аклюзія, *мн. няма*
акмеізм
акмеісцкі
акнó, *але:* вóкны; у акнé
акóрд, *род.* -да, *мес.* -дзе
áкр, *род.* áкра, *мес.* áкры
акрабатызм,
акрáец, *род.* акрáйца, *мес.* -цы
акрóпаль, *род.* -ля, *мес.* -лі
акрýга, *дав.*, *мес.* -зе
акрýжына
акружэнне, *мес.* -нні
акрыды, *адз. няма*
акрэдытавáны
акрэдытыў, *род.* -ва
акрэсліць

аксамiт, *род.* -ту, *мес.* -це
аксельбáнты
аксесуáр, *род.* -ра, *мес.* -ры
аксiдзiраваць
аксiёма
аксiяматы́чны
актаiраваць
актáэдр, *род.* -ра, *мес.* -ры
актуáльнасць, *тв.* -сцю
актывiзавáць
актывiстка, *дав.*, *мес.* -стцы
акты́ў, *род.* -ву
акулiст, *мес.* -це
акуля́ры, *род.* -раў, *адз. няма*
акумуля́тар, *род.* -ра, *мес.* -ры
акупáнцкi
акупацы́йны
акупiраваны
аку́плены
аку́рак, род. -рка
аку́стыка, *дав.*, *мес.* -цы
акусты́чны
аку́чваць, *зак.* аку́чыць
акушóр, *мес.* -ру
акушэ́рка, *дав.*, *мес.* -цы
акцёр, *мес.* -ру
акцыдые́нцыя
акцы́з, *род.* -зу, *мес.* -зе
акцыяне́р, *мес.* -ру
акцэнтавáць
акцэнтуáцыя
акы́н, *род.* -на, *мес.* -не
алавя́ны
алагiзм
аláдка, *дав.*, *мес.* -дцы
áлгебра
алгебраiчны
алеáндр, *род.* -ра, *(матэрыял, зборнае)* -ру
алебáрда
алебáстр, *род.* -ру, *мес.* -ры
алегары́чны
алегóрыя, *род. мн.* -рый
але́гро, *нязм.*
але́гры, *нязм.*
алеiн, *род.* -на, *(пры колькасцi)* -ну
але́й, *род.* але́ю, *мес.* але́i
александры́т, *род.* -та, *(пры колькасцi)* -ту
аленегадóўля
аленявóд, *мес.* -дзе
аленявóдства
але́нь, *мес.* -нi
аленянё *i* аленяня́, *род.* аленяня́цi
алеу́т, *род.* -та, *мес.* -це
але́шнiк, *род.* -ку, але́шына
алё! *нязм.*
алiбi *(юр.)*, *нязм.*
алiвiн, *род.* -на, *(пры колькасцi)* -ну
алiгархiчны
алiгáтар, *род.* -ра, *мес.* -ры

алізары́н, *род.* -на, *(пры колькасці)* -ну
аліме́нты, *адз. няма*
алімпіец, *род.* -пійца, *мес.* -пійцу
алімпія́да
алітара́цыя
аліфа
алкаго́ль, *род.* -лю
алка́лі *(хім.), нязм.*
алкало́ід, *род.* -да, *(пры колькасці)* -ду
алма́з, *род.* -за, *(пры колькасці)* -зу
алта́р, *род.* -ра́, *мес.* -ры́
алфавіт, *род.* -та, *мес.* -це
альвео́ла
альмана́х, *род.* -ха, *мес.* -ху
альпа́ры, *нязм.*
альпінізм
альпіністка, *дав., мес.* -стцы
альт, *род.* а́льта́, *мн.* альты́
альтруізм
альтэрнаты́ва
алювія́льны
алю́р, *род.* -ру, *мес.* -ры
амаладжэ́нне, *мес.* -нні
ама́ль, ама́ль што
амаралізм
амартызава́ць
амартыза́тар, *род.* -ра, *мес.* -ры
амана́л, *род.* -ла, *(пры колькасці)* -лу
амбразу́ра
амбулато́рыя, *род. мн.* -рый
амерыка́нец, *дав., мес.* -нцу
амеры́ст, *род.* -та, *(пры колькасці)* -ту
аме́ба
амія́к, *род.* -ка́, *(пры* колькасці) -ку́
амле́т, *род.* -ту
амні́стыя
амнісці́раваць
амо́нім, *род.* -ма
ампе́р, *род.* -ра, *мес.* -ры *але:* аб Ампе́ру
ампі́р, *род.* -ра, *мес.* -ры
амплітуда
амплифіка́цыя
амплуа́, *н. р., нязм.*
а́мпула
ампутава́ць, ампуту́ю
амфіба́лія
амфі́бія, *род. мн.* -бій
амфібра́хій, *мес.* -хія
амфітэа́тр, *род.* -ра, *мес.* -ры
амяртве́лы
анабіёз, *род.* -зу, *мес.* -зе
анагра́ма
анакру́за
анакрэанты́чны
аналагі́чны
аналізава́ць
аналі́тык

аналóгія
анáлы, *род.* -лаў; *адз. няма*
анамáлія, *род. мн.* -лій
анамáстыка
анаматалóгія
ананáс, *род.* -са, *(зборн.)* -су
ананíм, *род.* -ма, *мес.* -ме
анáпест, *род.* -та, *мес.* -це
анáрха-сіндыкалíзм
анáрха-сіндыкалíсцкі
анархíчны
анáрхія
анатавáць
анатамíраванне, *мес.* -нні
анатáцыя
анáфема
анахарэ́т, *род.* -та, *мес.* -це
ангажы́раваць
ангажэмéнт
ангáр, *род.* -ра, *мес.* -ры
ангідры́д, *род.* -да, *(пры колькасці)* -ду
англаманства
андалу́зец, *род.* -зца, *мес.* -зцу
андалу́зскі
андáнтэ, *прсл.*
андарáк, *род.* -кá
андынáрыя
анекдóт, *род.* -та, *мес.* -це
анéксія, *род. мн.* -сій
анемія

анемóн, *род.* -на, *(зборн.)* -ну
анерóід, *мес.* -дзе
анестэзíя
анібáлава клятва
анілíн, *род.* -на, *(пры колькасці)* -ну
анімíзм
анíс, *род.* -са, *(зборн.)* -су
áнкер, *род.* -ра, *мес.* -ры
анóд, *род.* -да, *мес.* -дзе
анóнс, *род.* -са, *мес.* -се
анóфелес, *род.* -са, *мес.* -се
ансáмбль, *род.* -ля, *мес.* -лі
антаганíзм
антагенéзіс, *род.* -са, *мес.* -се
антагенеты́чны
анталагíзм
анталóгія, *род. мн.* -гій
антáрктыка
антарктычны
антóнаўка
антóнім, *род.* -ма
антрáкт, *род.* -ту
антрапалагíзм
антрапалагíчны
антрапалóгія
антрапамарфíзм
антрапаметры́чны
антрапафáг, *род.* -га, *мес.* -гу
антрапацэнтры́зм
антрацы́т, *род.* -ту, *мес.* -це

антрэкóт, *род.* -ту
антрэпрэнёр, *мес.* -ру
антрэсóлі, *ж. р.*
антурáж, *род.* -жу, *мес.* -жы
анты- (*прыстаўка, пішацца ў адно слова:* антысанітáрны)
антыбáкхій, *род.* -хія
антыграмáдскі (антыграмáдскі ўчы́нак)
антыквáр, *род.* -ра, *мес.* -ру
антылóпа
антымілітары́зм
антыпаты́чны
антыпóд, *род.* -да, *мес.* -дзе
антырэлігíйны
антысемíцкі
антысавéцкі
антытэ́за
антытэ́зіс (*філас.*), *род.* -са, *мес.* -се
антыфашы́сцкі
анты́чны
антэ́на
ануляваць, анулюю
анфáс, *прсл.*
анфілáда
аншлáг, *род.* -га, *мес.* -гу
аóрта
аóрыст, *род.* -та, *мес.* -це
апавядáнне, *мес.* -нні
апагéй, *род.* -гéю, *мес.* -гéі
апазіцыянéр, *мес.* -ру
апазнáны

апакаліпсíчны
апакрыфíчны
апáл, *род.* -лу
апалагéт, *род.* -та, *мес.* -це
апаласнýць, *незак.* апалóскваць
апалíты́чны
апалчэ́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
апалчэ́нцкі
апáмятавацца *і* апáмятацца
апанéнт, *мес.* -це
апантáны
апаплексíчны
апаражнíць, апаражню́, апарóжніш
апарóс, *род.* -су, *мес.* -се
апартунíзм
апартунíсцкі
апáрыць
апастэрыёры, *нязм.*
апáсці, ападý,ападзéш
апаты́т, *род.* -та, (*пры колькасці*) -ту
апафеóз, *род.* -зу, *мес.* -зе
апаэтызавáць, *незак.* апаэтызóўваць
апаясáны
апаясáць, апаяшý, апаяшаш, апаяша; *III мн.* апаяшуць
апелíраваць
апельсíн, *род.* -на
апендыцы́т, *род.* -ту
апéнька

аператы́ўнасць, *тв.* -сцю
апераца́йны (*не блытаць з* аператы́ўны!)
аперцэ́пцыя, *род. мн.* -цый
аперэ́та
апеты́т, *род.* -ту, *мес.* -це
апіра́цца, *але:* абапе́рціся
апладне́нне, *мес.* -нні
апладысме́нты
апло́мб, *род.* -бу
аплява́ны
аплява́ць, *незак.* аплёўваць
апо́страф, *род.* -фа, *мес.* -фе
апо́ўначы,
апрабава́ць
апратэстава́ць, *незак.* апратэсто́ўваць
апрацава́ны
апрацо́ўваць
апрача́, *прыназ.*
апрашчэ́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
апрыёры, *прсл.*
аптыма́льны
аптымісты́чны
аптэ́ка, *дав., мес.* -цы
апы́рскаць, *незак.* апы́рскваць
ап'яне́ць
апяча́тванне, *мес.* -нні
апячы́, апяку́, апячэ́ш; *III мн.* апяку́ць
араго́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
арангута́нг, *род.* -га, *мес.* -гу
аранжэрэ́йны
арбітра́ж, *род.* -жу, *мес.* -жы
арганіза́тар, *мес.* -ру.
арганізацы́йны
арганіза́цыя, *род. мн.* -цый
арганізм
аргенты́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
аргуме́нт, *род.* -та, *мес.* -це
аргументава́ць
ардына́рац, *род.* -рца, *мес.* -рцу
ардына́та
арды́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
ар'ерга́рд, *род.* -да, *мес.* -дзе
аржаны́
арке́стр, *мес.* -ры
аркестра́нцкі
аркты́чны
арлекі́н, *мес.* -не
арляне́ *і* арляня́, *род.* -няці
арме́ец, *род.* -йца, *мес.* -йцу
а́рмія, *але:* Саве́цкая Армія, Чырво́ная Армія
арна́мент, *род.* -ту, *мес.* -це
арнау́тка
аро́л, *род.* арла́

артадаксáльны
артапеды́чны
арты́кул
артыкуля́цыя
артылеры́йскі
артылеры́ст, *мес.* -це
артэзія́нскі
артэрыясклерóз *род.* -зу, *мес.* -зе
арýдаваць, арýдую
арфаграфі́чны
арфаэпі́чны
архаі́зм
археóлаг, *мес.* -гу
архівáрыус, *мес.* -се
архіпелáг ,*мес.* -гу
архітэ́ктар, *мес.* -ру
архітэктóніка
арцéль, *тв.* -ллю
арыгінáльнасць, *тв.* -сцю
арыенталі́зм
арыентáцыя
арыстакрáтыя
арыфмéтыка, *дав.*, *мес.* -тыцы
арыфметы́чны
áрышт, *род.* -ту, *мес.* -це
арыштáнцкі
арыя́дніна ні́тка
арэапáг, *род.* -га, *мес.* -гу
арэóметр, *мес.* -ры
асабλі́васць, *тв.* -сцю
асакá, *дав.*, *мес.* -цэ́
асалавéць, асалавéю
асамблéя
асанáнс, *род.* -су, *мес.* -се
асартымéнт, *род.* -ту, *мес.* -це
асацыяцы́йны (*не блытаць з* асацыятыўны!)
асацыя́цыя, *род.*, *мн.* -цый
асвéтніцкі
асвéтніцтва
асвядóмленасць, *тв.* -сцю
асвятля́ць
асеі́н, *род.* -на
асенізáтар, *мес.* -ру
асéнні, *але:* вóсень
асéць, *тв.* -ццю
асігнавáць, *незак.* асігнóўваць
асіметры́я
асімілявáць
асіміля́цыя
асіндэтóн, *род.* -на
асіры́ец, *род.* -йца, *мес.* -йцу
асістэ́нцкі
аслупянéць
асмéльвацца
аснасці́ць, аснашчý, аснасці́ш; *III мн.* аснасця́ць
аснáшчваць, аснáшчваю
асóт, *род.* -ту, *мес.* -це
аспірáнт, *мес.* -це
аспрэ́чваць
астáтні
астралóгія
астраля́бія
астранóмія
астрóг, *род.* -га, *мес.* -зе

астыгма́тызм
асфа́льт, *род.* -ту, *мес.* -це
асцё, *мес.* асці
асьміна
асэ́сар, *мес.* -ру
асяло́к, *род.* -лка́
асяро́ддзе, *мес.* -ддзі
атавізм
а́там, а́тамны
атамісты́чны
аташэ́, *м. р., нязм.*
атланты́чны
а́тлас *(кніга), род.* -са, *мес.* -се
атла́с *(тканіна), род.* -су, *мес.* -се
атлёт, *мес.* -це
атмасфе́ра, *мес.* -ры
атракцыён, *род.* -на
атрафія
атруцíцца
атручэ́нне *(стан, не блытаць з* атру́чванне, *дзеянне!)*
атрыбу́т, *род.* -та, *мес.* -це
атрыма́ць *(не* адтрыма́ць!)
атрэ́сці, атрасу́; *незак.* атраса́ць
атынкава́ць
атэісты́чны
атэлье́, *н. р., нязм.*
атэстава́ны *і* атэсто́ваны
атэста́т, *род.* -та, *мес.* -це
аудые́нцыя, *род. мн.* -цый
аудыто́рыя, *род. мн.* -рый
аукцыён, *род.* -ну
а́ут, *род.* -та, *мес.* -це
Аўро́ра
аўстраліец, *род.* -йца, *мес.* -йцу
аўстры́ец, *род.* -йца *мес.* -йцу
аўстры́йка, *дав., мес.* -цы
аўся́ны
аўтаба́за
аўтабіягра́фія, *род. мн.* -фій
аўтабранявік
аўтаге́нны
аўтадафэ́ *н. р., нязм.*
аўтадо́равец, *род.* -ўца, *мес.* -ўцу
аўтадрызіна
аўтадыда́кт, *род.* -та, *мес.* -це
аўтазаво́д
аўтакало́на
аўтамабілізм
аўтамабільна-тра́ктарны, *але*: аўтатра́ктарны
аўтамабіль, *м. р., мес.* -лі
аўтамагістра́ль, *тв.* -ллю
аўтама́тчык
аўтаматызава́ць
аўтапартрэ́т, *род.* -та, *мес.* -це
аўтапла́стыка, *дав., мес.* -цы
аўтапрабе́г, *род.* -гу, *мес.* -гу
а́ўтар, *мес.* -ру

аўта́ркія
аўтарызава́ны
аўтарыта́рны
аўтарытэ́т, *род.* -ту, *(асоба)* -та
аўтаса́нны
аўтахто́нны, *прым.*
аўтахто́ны
аўто́бус, *род.* -са, *мес.* -се
аўто́граф, *род.* -фа
аўто́л, *род.* -лу, *мес.* -ле
аўто́рак, *род.* -рка
аўтэ́нтык
аўтэнты́чны
аўчы́нка, *дав., мес.* -нцы
афарбо́ўваць
афары́зм
афарысты́чны
афга́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
афе́кт, *род.* -ту, *мес.* -це
афе́ра
афіцыё́з, *род.* -зу, *мес.* -зе
афіцыя́л, *род.* -ла, *мес.* -ле
афіцыя́льны
афіцыя́нцкі
афіцэ́р, *мес.* -ру
афі́ша, *мес.* -шы
афрыка́нец, *мес.* -нцу
афса́йд, *род.* -да, *мес.* -дзе
ахало́джваць
ахало́дзець, ахало́дзею, ахало́дзееш
ахапі́ць, ахаплю́, ахо́піш; *III мн.* ахо́пяць; *незак.* ахо́пліваць
ахарактарызава́ць
ахво́сце *(зборн.)*
ахво́та *(жаданне)*
ахво́тнік, *мес.* -ку
ахвярава́нне, *мес.* -нні
ахвяро́ўваць
ахіле́сава пята́
ахо́п, *род.* -пу, *мес.* -пе
ахраматы́зм
ацвярдзе́ць, ацвярдзе́ю
аце́плены
ацё́л, *род.* -лу, *мес.* -ле
ацэ́ньваць
ацэтыле́н, *род.* -на, *(пры колькасці)* -ну
ацяплі́ць, ацяплю́, аце́пліш; *III мн.* аце́пляць
ачо́пісты
ачуня́ць, ачуня́ю, ачуня́еш; *незак.* ачу́ньваць
ашкляне́ць
ашу́г, *род.* -га, *мес.* -гу
ашука́нства
ашчадка́са
ашча́дны
ашчаслі́вець *(самому)*, ашчаслі́веюˉ
ашчаслі́віць *(каго-небудзь)*, ашчасліўлю; *III мн.* ашчаслі́вяць
аэрадро́м, *род.* -ма, *мес.* -ме
аэрана́ўт, *мес.* -це
аэрапла́н

аэрастáт
аэратрáнспарт, *род.* -*ту*, *мес.* це
аэрафотаздымка, *дав.*, *мес.* -цы

Б

баабáб, *род.* -ба, *(зборн., матэрыял)* -бу
бабíт, *род.* -та, *(пры колькасці, пры азнач. матэрыялу)* -ту, *мес.* -це
бавáрац, *род.* -рца, *мес.* -рцу
баваўнавóдства
баваўняны
багабóрац
багáж, *род.* -жý, *мес.* -жы́
багáцце, *мес.* -цці
багéт, *род.* -ту, *мес.* -це
багóр, *род.* -грá, *мес.* -гры́
багýн, *род.* -нý
бадáй-што
бадзёрасць, *тв.* -сцю
бадзяка і бадзяга, *дав. і мес. (для м. р.)* -ку, -гу, *(для ж. р.)* -цы, -зе
бадзяцца
базáльт, *род.* -ту, *мес.* -це
базáр, *род.* -ру, *мес.* -ры
бáзіс, *род.* -са, *мес.* -се
байкапíсец, *род.* -сца
байкатавáць, байкатýю
байкóт, *род.* -ту, *мес.* -це
бакенбáрды, *род.* -даў
баклажáн, *род.* -на
баксíт, *род.* -та, *(пры колькасці, пры азнач. матэрыялу)* -ту, *мес.* -це
бактэрыёлаг, *мес.* -гу
бактэрыялóгія
бáкхій, *род.* -хія, *мес.* -хіі
бал *(адзнака)*, *род.* бáла
балабóнчык
балáда
балазé
балáнс, *род.* -са
балансавáць, балансýю
балацíравацца
балгáрын, *мес.* -не
балеáрскі
балеры́на
балéсна, *прсл.*
балкáнскі
балты́йскі
бáль, *м. р.*, *род.* бáлю, *мес.* бáлі *(не блытаць з бал!)*
бальзáм, *род.* -му
бальзамавáць, бальзамýю; *III мн.* бальзамýюць
бальнеóлаг, *мес.* -гу
балюстрáда, *дав.*, *мес.* -дзе
бамбавóз
бамбан'éрка, *дав.*,*мес.*-цы
бамбардзірóўшчык
бамбýк, *род.* -ку,
банáн, *род.* -на, *(матэрыял)* -ну

банда́ж, *род.* -жа́, *мес.* -жы́
бандэро́ль, *ж. р., род., дав., мес.* -лі, *тв.* -ллю
банке́т, *род.* -ту, *мес.* -це
бапты́сцкі
баравік, *род.* -ка́
баравіна
барада́, *мн.* баро́ды
барада́ч, *род.* -ча́, *мес.* -чу́
баразна́, *мн.* баро́зны
барана́, *мн.* баро́ны
барацьба́
барацьбі́т, *род.* -та́, *мес.* -ту́
барбары́с, *род.* -су, *мес.* -се
бардзю́р
бар'е́р, *род.* -ра, *мес.* -ры
баржо́м *(вада), род.* -му
баро́даўка, *дав., мес.* -цы
баро́ко, *н. р., нязм.*
баро́метр, *мес.* -ры
баро́цца, *III адз.* бо́рацца, *III мн.* бо́руцца
ба́рый, *род.* -рыя, *(пры колькасці, пры азнач. матэрыялу)* -рыю
бары́то́н, *род.* -на
бары́ш, *род.* -шу́, *мес.* -шы́
барэлье́ф, *род.* -фа
баскетбо́л, *род.* -ла
ба́скскі
баскунча́кскі
басма́цкі
басто́н *(гульня, танец), род.* -на, *(мануф.)* -ну
бастыё́н, *род.* -на
басэ́тля
батальё́н, *род.* -на
бата́нік
батані́чны
батра́цкі
батра́цтва
бацві́нне, *мес.* -нні
баці́ст, *род.* -ту, *мес.* -це
бацы́ла
ба́цька, *род.* -кі, *дав., мес.* -ку, *тв.* -кам
ба́цькаўшчына
ба́чыць, ба́чу, ба́чыш, ба́чыць; *III мн.* ба́чаць
баядэ́рка, *дав., мес.* -цы
баязлі́вы
бая́н, *род.* -на
бая́цца, баі́мся, баіце́ся, бая́цца
ба́яць *(байкі),* ба́ю, ба́еш, ба́е; *III мн.* ба́юць
бег, *род.* бе́гу, *мес.* бе́гу
бегемо́т, *мес.* -це
бе́гма *прсл.*
бе́гчы, бяжы́ш; *III мн.* бягу́ць
бе́днасць, *тв.* -сцю
бе́жанец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
безабаро́нны
безадка́зна, *прсл.*
безапеляцы́йны
безбандэро́льны
бе́звач *прсл.*
безгаспада́рчасць, *тв.* -сцю
бездапамо́жны

бе́здараж, *ж. р., род.*-жы, *тв.* -жжу, *мес.* -жы
беззабаро́нны
беззага́ннасць, *тв.* -сцю
беззага́нны
беззапаве́тна, *прсл.*
беззяме́лле, *мес.* -ллі
бе́зліч, *ж. р., род.* -чы, *тв.* -ччу
безнадзе́йны
безназо́ўны
безразва́жнасць, *тв.* -сцю
безула́ддзе, *мес.* -ддзі
безумо́ўна
безыдэ́йны
безыніцыяты́ўны
белагвардзе́ец, *род.* -дзе́йца, *мес.* -дзе́йцу
белару́с, *мес.* -се; *мн.* белару́сы (*не:* беларусы́)
белару́скі
белетры́стыка, *дав., мес.* -цы
белетрысты́чны
белізна́ (*не блытаць з* бялізна)
бель, *ж. р., род.* бе́лі, *тв.* бе́ллю
бельгіец, *род.* -гійца, *мес.* -гійцу
бельэта́ж, *род.* -жа, *мес.* -жы
бемо́ль, *м. р., род.* -ля, *мес.* -лі
бенга́льскі
бенефіс, *род.* -су, *мес.* -се
бензін, *род.* -ну
бензо́л, *род.* -лу
бенуа́р, *род.* -ра, *мес.* -ры
бе́раг, *род.* -га, *мес.* -зе, *але:* з берагу
берасце́нь, *род.* -сня́, *мес.* -сні
бервяно́, *мн.* бярвё́ны, *зборн.* бярве́нне
бе́ркавец, *род.* -ўца, *мес.* -ўцы
бернштэйніянства
бертале́тавая соль
бескары́сны
бесклапо́тна
беспарты́йны
бесперспекты́ўны
беспрасве́цце, *мес.* -цці
беспрасы́пу, *прсл.*
беспрацо́ўны
беспрацэ́нтна-вы́йгрышны
беспрыту́льны
бессардэ́чны
бессаро́мна, *прсл.*
бессістэ́мны
бесстаро́ннасць, *тв.* -сцю
бессуб'е́ктны
бессэнсо́ўны
бестурбо́тна, *прсл.*
бесхаці́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
бесхрыбе́тны
бесцырымо́нна, *прсл.*
бесчалаве́чнасць, *тв.* -сцю
бето́ншчык
бё́рда, *мн.* бё́рды
бібле́йскі

біблíёграф, *мес.* -фе
бібліягрáфія
бібліятэ́ка, *дав., мес.* -цы
бівень, *род.* біўня
біёграф, *мес.* -фе
біёлаг, *мес.* -гу
біквадратóвы
бікфóрдаў шнур
білéт
білецёр, *мес.* -ру
більдапарáт, *мес.* -це
більён, *род.* -на
більярд, *род.* -да
бінóкль, *род.* -ля, *мес.* -лі
бінóм, *род.* -ма
бісектры́са, мес. -се
біскві́т, *род.* -ту, *мес.* -це
біфштэ́кс, *род.* -су,
*мес.* -се
біцэпс, *род.* -са, *мес.* -се
біягрáфія
біялóгія
біяхмехáніка, *дав.,*
*мес.* -цы
біяфізіка, *дав., мес.* -цы
біяхімія
блакіравáць
блакіт, *род.* -ту, *мес.* -це
блакнóт, *род.* -та, *мес.* -це
бландзін, *мес.* -не
блёкат, *род.* -ту
бліжэ́йшы
блізкасць, *тв.* -сцю
бліндáж, *род.* -жá,
*мн.* -жы́
блінчык
бліскавіца
бліскýчасць, *тв.* -сцю
блукáнне, *мес.* -нні
блю́мінг, *род.* -га, *мес.* -гу
бляск, *род.* бля́ску
бóбрык *(сукно), род.* -ку
богастваря́льніцтва *(гіст.)*
богашукáльніцтва *(гіст.)*
боездóльнасць, *тв.* -сцю
бойскáут, *род.* -та,
*мес.* -це
бóкам, *прсл.*
бóль, *м. р., род.* бóлю,
*тв.* бóлем, *мес.* бóлі
бóльш-менш, *прсл.*
большэвізм
большэвíк, *род.* -кá
большэвіцкі
бомбасхóвішча,
*мес.* -шчы
бóнна
бóр, *род.* бóру, *мес.* аб
бóру, *але:* у бары́
бóрзда, *прсл.*
борт, *род.* бóрта, *мес.* -це
бóртніцтва
боршч, *род.* баршчý,
*мес.* -шчы́
бóскі
бóўтаць
бóцман, *мес.* -не
бóязна, *прсл.*
бравýрны
брáзганне, *мес.* -нні
бракан'ёр, *мес.* -ру
брандмáйстар, *род.* -тра,
*мес.* -тру
бранзалéт, *род.* -та
браніравáны
бранхія́льны

бранябо́йны
бранявік, *род.* -ка́, *мес.* -ку́
браняно́сец, *род.* -сца
бра́ткі *(кветкі), род.* бра́так; *адз. няма*
бра́ўнінг, *род.* -га, *мес.* -гу
бра́цкі
бра́цтва
брашу́ра
брод, *род.* бро́ду
бром, *род.* бро́ма, *(пры колькасці)* бро́му
броміставадаро́дны
бронета́нкавы
бронецягні́к, *род.* -ка́
бро́нхі, бро́нхаў
брус, *мн.* брусы́, *зборн.* бру́ссе
брусо́к, *род.* -ска́
бру́ствер, *род.* -ра, *мес.* -ры
брусча́тка, *мес.* -*тцы*
бру́то, *нязм.*
бру́чка, *мес.* -чцы
брыво́, *род.* -ва́; *мн.* бро́вы, *род.* бро́ваў
брыга́да
брыгадзір, *мес.* -ру
брыдкі
брызе́нт, *род.* -ту, *мес.* -це
брыка́цца
брылья́нт, *род.* -та, *мес.* -це
брысці, брыду́
бры́тва, *дав., мес.,* -тве
бры́чка, *мес.* -чцы
брэ́дзень, *род.* брэ́дня, *мес.* -дні
бу́бен, *род.* -бна, *мес.* -бне
будава́нне, *мес.* -нні
будаўні́цтва
будзі́раваць
будзі́ць, буджу́, бу́дзіш; *III мн.* бу́дзяць
бу́дучыня, *мес.* -ні
будызм
буй, *род.* бу́я, *мес.* бу́і
буйны́
букіні́ст, *мес.* -це
буксава́ць, буксу́ю
булён, *род.* -ну
бульбакапа́лка, *дав., мес.* -цы
бульбасаджа́лка, *дав., мес.* -цы
бульбя́нік, *род.* -ку
бульбя́ны
бульва́р, *род.* -ру, *мес.* -ры
бумера́нг, *мес.* -гу
бураве́снік
бургомістр, *мес.* -ру
бургу́ндскі
буржуазі́я
бурштын, *род.* -ну
бу́сел, *род.* -сла, *мес.* -сле
бутэ́лечка, *дав., мес.* -чцы
бутэрбро́д, *род.* -да
бухга́лтар, *мес.* -ру
бы, б *(часціца, пішацца праз злучок:* нёс-бы, чыта́ла-б)

быллё *(зборн.)*
бытапіса́нне, *мес.* -нні
бы́тнасць, *тв.* -сцю
бы́ў-жа ж
бы́ццам
быццё, *мес.* -цці
бэз, *род.* бэ́зу, *мес.* бэ́зе
бэко́н, *род.* -ну
бэ́лька, *дав., мес.* -цы
бюджэ́т, *род.* -ту, *мес.* -це
бюлетэ́нь, *род.* -тэ́ня, *мес.* -тэ́ні
бюракраты́зм
бюро́, *нязм.*
бюстга́льтэр, *мес.* -ры
бяда́к, *род.* -ка́
бядня́цкі
бязбо́язны *і* безбая́зны
бязве́р'е, *тв.* -р'ем, *мес.* -р'і
бязве́траны
бязво́ддзе, *мес.* -ддзі
бязво́лле, *мес.* -ллі
бязвы́езна, *прсл.*
бязглу́здзіца
бяздо́нне, *мес.* -нні
бяздзе́йнасць, *тв.* -сцю
бяззу́бы
бязла́ддзе, *мес.* -ддзі
бязлі́тасна, *прсл.*
бязлі́таснасць, *тв.* -сцю
бязлю́ддзе, *мес.* -ддзі
бязма́ла, *прсл.*
бязмэ́тавасць, *тв.* -сцю
бязры́б'е, *тв.* -б'ем, *мес.* -б'і
бязь, *ж. р., тв.* бя́ззю
бялі́зна (*не блытаць з* белізна́)
бяро́зка, *дав., мес.* -зцы
бярэ́знік *і* беразня́к, *род.* бярэ́зніку *і* беразняку́
бярэ́мя, *мес.* -мі
бяско́лернасць, *тв.* -сцю
бяско́нца, *прсл.*
бяско́сны
бяскра́йні
бяспа́шпартны
бяспе́чны
бяспла́навасць, *тв.* -сцю
бяспла́тны
бяспра́ўе, *мес.* -ўі
беспро́йгрышны
бяспры́кладны
бяссі́лле, *мес.* -ллі
бяссі́льны
бяссла́ўе, *мес.* -ўі
бяссне́жны
бяссо́нніца
бяссп्рэ́чна, *прсл.*
бясстра́шны
бяссэ́нсавасць, *тв.* -сцю
бяссэ́нсіца, *мес.* -цы
бясфо́рменны
бясцэ́нны
бясчы́нства
бясшлю́бны

## В

ва́біць, ва́блю; ва́бяць
вага́, *дав., мес.* -зе́; *мн. няма*
ваганетка, *род. мн.* -так
вагонаважа́ты
вагонарамо́нтны
вадаво́з
вадаём
вадака́чка, *дав., мес.* -чцы
вадала́з
вадапа́д
вадаправо́д, *род.* -да
вадаро́д, *род.* -да, *(пры колькасці)* -ду
вадзі́ць, ваджу́, во́дзіш; *III мн.* во́дзяць
ва́дкасць, *тв.* -сцю
вадэві́ль, *м. р., род.* -ля, *мес.* -лі
ваенкама́т, *мес.* -це
ваенко́м, *мес.* -ме
ваенко́р, *мес.* -ру
ваеннаабавя́заны
ва́енна-марскі, *але:* Ваенна-Марскі Флот СССР
ваеннапало́нны
ваеннапалявы́
ваенру́к
ва́енны
ва́жкі
ва́жыцца, ва́жуся, ва́жышся; *III мн.* ва́жацца
ва́жыць, ва́жу, ва́жыш; *III мн.* ва́жаць
вазелі́н, *род.* -ну
вака́льны
ваками́ер, *род.* -ру, *мес.* -ры
вака́нсія, *род. мн.* -сій
вака́нтны
вакза́л, *род.* -ла
вако́л, навако́л і наўко́л
вако́ліца
ва́куум *(тэх.), род.* -ма
вал, *род.* ва́ла
валавы́ (валавы́ дахо́д)
валакі́цтва, *мес.* -ве
валачо́бнікі
валейбо́л, *род.* -ла
вале́нтнасць, *тв.* -сцю
валёнкі
валі́цца, валю́ся, ва́лішся; *III мн.* ва́ляцца
вало́вы (вало́вы рот)
вало́данне, *мес.* -нні
вало́ссе, *зборн., мес.* -ссі
вало́шка, *мес.* -шцы
валу́й, *род.* валу́я, *мес.* валуі
валу́н, *род.* -на́
вальнаду́мства
вальпу́ргіева ноч
вальс, *род.* ва́льса
вальсава́ць
вальта́ж, *род.* -жу, *мес.* -жы
вальтэр'я́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
вальцава́ць
валэ́ндацца
валюнтары́сцкі

валю́ш, *род.* -ша́, *мес.* -шы́
валя́льня
валяр'я́н, *род.* -ну
валяр'я́нка
ванда́л, *род.* -ла, *мес.* -ле
вандрава́нне, *мес.* -нні
вандро́ўніцтва
ваніл́ін, *род.* -ну
ва́нна, *род. мн.* ва́ннаў
вантро́бы, *адз. няма*
ва́пнавы
вар, *род.* ва́ру, *мес.* ва́ры
во́раг, *род.* -га, *мес.* -гу
вара́жскі
ва́рвар, *род.* -ра, *мес.* -ру
вар'іраваць
варо́жасць, *тв.* -сцю
варо́на, *мн.* варо́ны, *зборн.* вараннё
варо́ты, *адз. няма*
ва́ртасны
варушы́ць, варушу́, вару́шыш; *III мн.* вару́шаць
варшавя́нка, *дав.*, *мес.* -цы
варшта́т, *род.* -та, *мес.* -це
ва́рыва
варыя́нт, *род.* -та, *мес.* -це
варыя́цыя
варэ́нік
варэ́нне, *мес.* -нні
вар'я́т, *мес.* -це
вар'я́цтва
васа́л, *мес.* -ле
васілёк, *род.* -лька́
вастрано́сы
вастры́ць, вастру́
васьмёра, *зборн.*
васьмёрка
васьмігадзі́нны
васьмідзеся́тнікі
васьмідзённы
васьмікла́снік
васьміно́г, *мес.* -гу
васьму́шка
васьмяры́к, *род.* -ка́
ва́та, *дав.*, *мес.* -це
ват-гадзі́на
ватэрклазе́т, *род.* -та, *мес.* -це
ватэрпа́с, *род.* -са, *мес.* -се
ваўкада́ў, *род.* -ва
ваўкала́к
ваўчанё і ваўчаня́ *род.* -ня́ці, *тв.* -нём; *мн.* ваўчаня́ты
ваўчо́к, *род.* -чка́
ва́хмістр, *род.* -ра, *мес.* -ру
ва́хта, *мес.* -це
вахцёр, *род.* -ра, *мес.* -ру
вацін, *род.* -ну
ваця́к, *род.* -ка́; *мн.* вацякі́
ваця́цкі
ваця́чка
ваяво́да, *дав.*, *мес.* -ду
ваянне, *мес.* -нні
ваяўні́часць, *тв.* -сцю
вегетарыя́нец, *род.* -нца, *мес.* -нцу
вегетаты́ўны (*не блытаць з* вегетацы́йны)

